–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
1
СТУДЗЕНЯ
1993 г.
№ 1 (3671)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ—
па дамоўленасці



# З Новым годам!

Шаноўныя чытачы!

Па звычцы апошніх гадоў, якая паспела ўжо стаць модай — пазначаць год жывёльна-птушыным сімвалам, мы таксама не ўтрымаліся і пасадзілі на вокладку штотыднёвіка гэтага стылізаванага пеўніка—сімвал сёлетняга, 1993 года (выцінанка В. Дубінкі). Мо гэта і не надта сур'ёзна, аднак жа... Кажуць, што каб год быў шчаслівы, шэры пеўнік абавязвае чалавека працаваць дысцыплінавана і сістэматычна. А ці ж гэта найперш і вымагаецца ад усіх нас у нашай маладой дзяржаве!! Вось і выходзіць, што пеўнік на сённяшняй лімаўскай вокладцы—зусім не лішні.

Пеўнікам пазначаем мы і вашы калядныя шчыраванні ў нумары. Дзякуй вам, дарагія, што вы гэтак дружна адгукнуліся на наша запрашэнне выказацца пра жыццё, падзяліцца сваімі думкамі пра дзень заўтрашні. Адны з вас адказалі на нашу анкетку па пунктах— спачатку на першае пытанне, «каляднае» (як вы сёлета будзеце святкаваць Новы год, якое свята вам асабіста даражэй: Новы год ці Каляды, ці ўмееце вы калядаваць!), а пасля на другое, «жыццёвае» (што вы думаеце пра свой уласны лёс і лёс рэспублікі, як спадзеяцеся зладзіць яго!); іншыя ж проста згадалі радасці, здабыткі і засмучэнні года ўжо мінулага і падзяліліся спадзяваннямі на год надышоўшы. Яшчэ раз віншуем усіх, хто трымае гэты нумар «ЛіМа», з Новым годам, зычым вам плёну і поспехаў у працы, здароўя, настойлівасці і рашучасці ў Адраджэнні Беларусі на Беларусі.

# Кола Дзён-92

Дзесяць гадоў назад, 30 снежня, гадавіна ўтварэння Саюза ССР, бадай, у апошні раз святкавалася з усім дзяржаўным размахам: з урачыстымі сходамі, з прамовамі аб непарушнай дружбе савецкіх народаў, аб росквіце нацыянальных культур, аб інтэрнацыяналізме (ілюстрацыяй мусіла служыць «братэрская дапамога» Афганістану).

Вельмі многае змянілася за дзесяць гадоў. Але ёсць нямала людзей, якія не тое, каб не заўважылі гэтых змен, але хочуць пераканаць сябе і ўсіх іншых, што народы проста-такі прагнуць вяртання да вялікай імперыі, пад крыло «старэйшага брата». Днямі на экранах тэлевізараў можна было ўбачыць прэзідыум так званага надзвычайнага з'езда народных дэпутатаў СССР. Што гэта — грымасы сучаснай гісторыі?

Дае падставу задумацца і яшчэ адна дата — 60-годдзе савецкага пашпарту і ўвядзення прапіскі. Няма ўжо СССР, але мы, грамадзяне незалежнай Рэспублікі Беларусь, усё яшчэ мусім карыстацца «сярпастым і малаткастым», а штамп аб прапісцы, прыдуманай некалі Сталіным, успрымаем як належнае. Не проста даецца нам развітанне з мінулым — рабскай псіхалогіяй, інерцыяй коснасці.

I ўсё-такі, на парозе новага года, мы спадзяёмся і верым...

**2 СТУДЗЕНЯ** Год пачаўся з вызвалення цэн. Меркавалася, што іх «лібералізацыя» будзе першым крокам на шляху да рынкавай эканомікі. На жаль, з-за манаполіі дзяржаўных структур, наменклатурнай «прыхватызацыі», гіперінфляцыі і татальнай карупцыі эканамічная рэформа на Беларусі (як і ў іншых краінах СНД) загразла ў шматлікіх цяжкасцях.

**14 ЛЮТАГА** На сустрэчы кіраўнікоў СНД у Мінску падпісаны Дэкларацыя аб прынцыпах супрацоўніцтва, Заява аб недапушчэнні ўжывання сілы, Пагадненне аб рэгуляванні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва і яшчэ каля 20 дакументаў. Аднак большасць з іх засталіся на паперы.

**14 САКАВІКА** У рэспубліцы заснаваны Антыкрызісны камітэт, з ініцыятывай стварэння якога выступіла Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. У камітэт увайшлі прадстаўнікі дзяржаўных структур, грамадскіх арганізацый і партый.

**13 КРАСАВІКА** Ініцыятыўная група БНФ па правядзенні рэферэндуму аб будучым Вярхоўнага Савета Беларусі прадставіла ў Цэнтральную выбарчую камісію больш як 446 тысяч подпісаў, сабраных у падтрымку гэтай прапановы. Праз некаторы час ЦВК прыняла станоўчае рашэнне.

**19 МАЯ** У сталіцу Беларусі прыбыла афіцыйная дэлегацыя Савета Еўропы. (Камітэт па сувязях з краінамі СНД).

**14 ЧЭРВЕНЯ** У Рыа-дэ-Жанейра завяршылася міжнародная канферэнцыя ААН па пытаннях экалогіі планеты. Даклад, прысвечаны наступствам Чарнобыля, з якім выступіў Старшыня ВС Беларусі С. Шушкевіч, выклікаў ва ўдзельнікаў канферэнцыі сапраўдны шок.

**10 ЛІПЕНЯ** Беларусь афіцыйна ўступіла ў Міжнародны валютны фонд і Сусветны банк.

**13 ЖНІЎНЯ** З некаторым спазненнем Саўмін Беларусі прыняў пастанову «Аб надзвычайнай пажарнай абстаноўцы на тэрыторыі рэспублікі...» З-за засухі агнём былі ахоплены тысячы гектараў лясоў і тарфянікаў. Пажары прынеслі шматмільённыя страты.

**8 ВЕРАСНЯ** У Мінску на плошчы Незалежнасці адбылося свята беларускай вайсковай славы, прысвечанай угодкам Аршанскай бітвы 1514 года. Удзельнікі ўрачыстасці прынялі сімвалічную прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь.

**1 КАСТРЫЧНІКА** Распараджэннем Мінфіна рэспублікі і Нацыянальнага банка РБ у сумежных з Літвой і Украінай раёнах зняты з абароту савецкі рубель. Усе плацяжы тут пачалі ажыццяўляцца ў разліковых білетах. Білеты, ці «зайчыкі», зразумела, не маглі і не могуць замяніць нацыянальную валюту. А з «рублёвай зоны» Беларусь таксама яшчэ не выйшла.

**14 ЛІСТАПАДА** Адбылася канферэнцыя Ініцыятыўнай групы рэферэндуму і Сойма БНФ. На ёй абмяркоўвалася сітуацыя, якая склалася ў сувязі з пастановай Вярхоўнага Савета ад 29 кастрычніка. Адзначалася, што гэтай пастановай парламент фактычна адмовіў выбаршчыкам у законным праве на рэферэндум.

**31 СНЕЖНЯ** Вайскоўцы — грамадзяне Рэспублікі Беларусь прынялі прысягу на вернасць свайму народу.

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

# АБ ПРЫСУДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1992 ГОДА Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

**Разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляюць:**

**1. Улічваючы, што значна павялічылася колькасць твораў, прадстаўленых на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, якія адрозніваюцца высокімі мастацкімі і навукова-даследчымі якасцямі, лічыць мэтазгодным прысудзіць, у парадку выключэння, 12 прэмій замест 11.**

**2. Прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь за 1992 год:**

**У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ**
**імя Янкі Купалы**

**Законнікаву** Сяргею Іванавічу — за кнігу паэзіі «Заклінанне»;

**Звонаку** Алесю (Звонаку Пятру Барысавічу) — за кнігу паэзіі «Святлацені»;

**імя Якуба Коласа**

**Грахоўскаму** Сяргею Іванавічу — за кнігу «Споведзь»;

**Жуку** Аляксандру Аляксандравічу — за кнігу «Праклятая любоў»;

**Сёмуху** Васілю Сяргеевічу — за пераклад з нямецкай мовы на беларускую рамана Томаса Мана «Доктар Фаўстус»;

**імя Кастуся Каліноўскага**

**Ермаловічу** Мікалаю Іванавічу — за гістарычна-публіцыстычную кнігу «Старажытная Беларусь. Полацкі і новагародскі перыяды».

**за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва**

**Пархуту** Яраславу Сільвестравічу— за кнігу «Зямля бацькоў нашых».

**У ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ**

**Уліцёнку** Аляксандру Леанідавічу — за кнігу публіцыстыкі «Іншадумцы». («Мыслящие иначе»).

**У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ**

**Гарэлавай** Галіне Канстанцінаўне, кампазітару,— за кантату «У год сусветнага пажару».

**У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА**

**Кін-Камінскаму** Уладзіміру Тадэвушавічу, **Кур'яну** Уладзіміру Мітрафанавічу, **Манаеву** Віктару Сяргеевічу, **Пінігіну** Мікалаю Мікалаевічу — за пастаноўку ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы спектакля «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы.

**У ГАЛІНЕ АРХІТЭКТУРЫ І ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА**

**Агуновічу** Эдуарду Канстанцінавічу, мастаку,— за архітэктурна-мастацкае вырашэнне экспазіцый Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску і Музея партызанскай славы ў г. п. Ушачы Віцебскай вобласці.

**Селешчуку** Мікалаю Міхайлавічу, мастаку,— за серыю графічных аркушаў «Святы» («Каляды», «Гуканне вясны», «Вербніца»), за цыкл карцін «Мая Беларусь», за ілюстрацыі да кніг «Сымон-музыка» Якуба Коласа і «Сказки белорусских писателей».

3. Устанавіць у 1992 годзе Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ў памеры 50 мінімальных заработных плат.

**С. ШУШКЕВІЧ,**
**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**В. КЕБІЧ,**
**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

28 снежня 1992 г.
г. Мінск.

# Важкі ўклад у мастацкую скарбніцу Беларусі

Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь прысуджаны Дзяржаўныя прэміі 1992 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Сёлетняе прысуджэнне гэтых самых аўтарытэтных у Беларусі прэмій мае сваю адметнасць: яна ў тым, што ўпершыню за выдатныя дасягненні ў галіне мастацкай творчасці прысуджаны прэміі незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Гэта папершае; па-другое, Камітэт па Дзяржаўных прэміях працаваў у новым складзе і паводле абноўленых палажэнняў.

Ёсць усе падставы лічыць, што адзначаныя гэты раз прэміяй творы праўдзіва адлюстроўваюць высокі ўзровень творчага духу, таленавітасці і мастакоўскай самапатрабавальнасці іх аўтараў.

У галіне паэзіі Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы адзначаны кніга Сяргея Законнікава «Заклінанне» і кніга Алеся Звонака «Святлацені». Сяргей Законнікаў сёння ў самым росквіце творчых сіл. Аматарам паэзіі ён даўно вядомы сваёй глыбокапатрыятычнай лірыкай, вельмі чуйнай да пульсу часу. У кнізе «Заклінанне» асабліва вымоўна «прамаўляе» агалены нерв публіцыстычнасці, у ёй шмат болю і горычы, пяшчоты, чалавечага даверу, дабрыні, — той, я сказаў бы, беларускасці характару, што робіць яе лірычнага героя асабліва прывабным. Дадамо да гэтага свежасць і выразнасць паэтычнай мовы, багацце яе інтанацый, майстэрскае абыходжанне са словам. Старэйшына беларускай паэзіі Алесь Звонак працуе ў літаратуры без мала семдзесят гадоў. Праўда, дваццаць з іх былі жорстка вырваны з жыцця паэта: яму давялося ні за што, без віны зведаць жудкую сібірскую катаргу і ссылку. У яго новай кнізе нямала вершаў і пра гэта. Дасканалы майстар класічнай формы, паэт гаворыць пра перажытае і набалелае з пачуццём высокай чалавечай годнасці, без надрыву і экзальтацыі, па-філасофску спакойна і мудра, з верай у добры, светлы пачатак людскога жыцця на зямлі.

Лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа сталі Сяргей Грахоўскі, Алесь Жук і Васіль Сёмуха. Сяргея Грахоўскага чытачы ведаюць і як шчырага, пранікнёнага лірыка, і як аўтара шматлікіх кніг цікавай, так бы мовіць, непрыдуманай прозы. Як і А. Звонак, С. Грахоўскі — былы вязень сталінскіх канцлагераў. Яго кніга «Споведзь» — праўдзівы расказ пра жахі ГУЛАГа, перасыпаны балючымі, горкімі радкамі вершаў. Гэта новы важкі крок паэта і пісьменніка ў шматгадовай напружанай працы над адной з самых трагічных тэм беларускай літаратуры. Кніга Алеся Жука «Праклятая любоў» — яскравае сведчанне высокай творчай сталасці вядомага празаіка, майстра псіхалагічна-праўдзівага, рэалістычнага — без даважкаў публіцыстыкі і лірычнай рыторыкі — пісьма, добрага знаўцы народнага жыцця і побыту, чалавечых лёсаў і характараў, што раскрываюцца не толькі ў дзеяннях і ўчынках, але і ў вобразнай і сакавітай «слуцкай» мове. Прызнаны майстар мастацкага перакладу Васіль Сёмуха адзначаны прэміяй за адну з найбольш пераканаўчых удач свайго нялёгкага рамяства — за пераклад знакамітага філасофскага рамана Томаса Мана «Доктар Фаўстус». Да гэтага ён падарыў беларускім чытачам «Фаўста» Гётэ і творы многіх еўрапейскіх паэтаў. У новай працы Сёмуха засведчыў не толькі асабістыя творчыя магчымасці, але і магчымасці нашай мовы, што вельмі важна для развіцця мастацкага перакладу ў Беларусі.

Лаўрэатам прэміі імя Кастуся Каліноўскага стаў вядомы гісторык і публіцыст Мікола Ермаловіч — за кнігу «Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагрудскі перыяды». Імя гэтага даследчыка гісторыі Беларусі — не ахопленага ніякім творчым калектывам адзіночкі — сёння адно з самых аўтарытэтных сярод навукоўцаў, з ім звязаны паварот нашай гістарычнай навукі да аб'ектыўнага асвятлення лёсу беларускага народа. Напісаная з добрым палемічным запалам, жывой эмацыянальнай мовай, кніга М. Ермаловіча прынята чытачамі з удзячнасцю і радасцю як доўгачаканы падарунак, якім яна для іх і з'яўляецца.

З вылучаных на Дзяржаўную прэмію твораў для дзяцей і юнацтва гонар дастаўся кнізе пісьменніка Яраслава Пархуты «Зямля бацькоў нашых» — з падзагалоўкам «Падарожжа па родным краі». Гэта цікавая, змястоўная і вельмі патрэбная для патрыятычнага выхавання дзяцей кніга сапраўды ёсць вынік незлічоных і нястомных вандровак аўтара па Беларусі. Зайздросная энергія падарожніка, спалучыўшыся з назіральным «вокам» і тонкім адчуваннем хараства прыроды, чалавека і роднага слова, дала шчаслівы плён.

У галіне журналістыкі Дзяржаўная прэмія прысуджана Аляксандру Уліцёнку за кнігу публіцыстыкі «Іншадумцы» («Мыслящие иначе»). Гэта зборнік яго размоў з добра вядомымі, малавядомымі і амаль невядомымі людзьмі па розных актуальных пытаннях сучаснага грамадска-палітычнага жыцця. У адлюстраванні рознасці поглядаў і думак суразмоўнікаў журналіста, сярод якіх пісьменнікі, навукоўцы, грамадскія дзеячы, палітыкі, — несумненная вартасць кнігі, прафесіянальна задуманай і арганізаванай.

Кампазітару Галіне Гарэлавай Дзяржаўная прэмія прысуджана за кантату «У год сусветнага пажару», напісаную на вершы рускіх і еўрапейскіх паэтаў. Твор гэты — адметная з'ява ў сучаснай беларускай вакальна-інструментальнай музыцы. Спалучэнне трагедыйнага гучання са светлым лірызмам, свежасць музычнай мовы, высокі прафесіяналізм надоўга, трэба думаць, забяспечаць таленавітаму твору поспех.

У галіне тэатральнага мастацтва Дзяржаўнай прэміяй адзначаны спектакль «Тутэйшыя» ў пастаноўцы БДАТ імя Янкі Купалы. Лаўрэатамі сталі рэжысёр-пастаноўшчык Мікалай Пінігін, кампазітар Уладзімір Кур'ян, выканаўцы галоўных роляў артысты Уладзімір Кін-Камінскі і Віктар Манаеў. Сучаснае, арыгінальнае сцэнічнае прачытанне знакамітай камедыі Янкі Купалы — несумненны поспех таленавітага творчага калектыву, пацвярджэнне вернасці лепшым традыцыям нацыянальнага акадэмічнага тэатра і падмацаванне надзей, якія на яго ўскладаюць аматары беларускага тэатральнага мастацтва.

Творчасць мастака Эдуарда Агуновіча даўно заваявала прызнанне ў шырокіх колах грамадскасці, і невыпадкова, што яго працы апошніх гадоў — архітэктурна-мастацкае вырашэнне экспазіцыі літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску і музея Партызанскай славы ў Ушачах адзначаны Дзяржаўнай прэміяй. Таленавітая і не будзе перабольшаннем сказаць — самаахвярная работа мастака заслугоўвае гэтай высокай ацэнкі. Прэміяй у галіне мастацтва адзначаны таксама творы Міколы Селешчука — серыя графічных артыкулаў «Святы», цыкл жывапісных палотнаў «Мая Беларусь», ілюстрацыі да кніг «Сымон-музыка» Якуба Коласа і «Сказки белорусских писателей». Творчасць гэтага жывапісца і графіка, вядомая не толькі ў Беларусі, а і далёка ў свеце, вылучаецца яркай самабытнасцю, своеасаблівым — на мяжы фантастычна-казачнага і рэалістычнага — бачаннем свету.

Адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь творы — важкі ўклад у скарбніцу беларускай літаратуры і мастацтва. Прыемна ўсведамляць, што і ў далёка не лепшых сацыяльна-эканамічных і палітычных умовах музы не маўчаць, самаадданна працуюць дзеля ўзвелічэння і славы Бацькаўшчыны.

Павіншуем жа новых лаўрэатаў з высокай ацэнкай іх творчых дасягненняў і пажадаем ім натхнення і багатага плёну ў далейшай працы.

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
старшыня Камітэта па Дзяржаўных прэміях РБ у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# Нумар не пройдзе

Мне, настаўніку-беларусу, вельмі прынра было чытаць ліст віцебскіх педагогаў у газету «Правда». Паслухайце тольні, што пішуць людзі радзімы Міхася Лынькова і Васіля Быкава: «Мы, белорусы, исконно имперский народ, лишились Родины — Великой России». Ці яшчэ такое: «Я — белорус, но белорусского не люблю». Напрошваецца само па сабе: едзь, жыві і працуй на карысць Расіі, Ельцына, а не збівай з панталыку нашчадкаў Скарыны, Купалы, Коласа, Багдановіча.

Лічу адкрыты ліст у «Правду» віцебскіх «педагогаў» правакацыйным і зневажальным для нашага сумленнага і самаадданага народа. Патрыётам Беларусі ніколі не зрушыць з месца (як таго патрабуе ісціна) беларускую справу, калі ім будуць перашкаджаць на кожным кроку тутэйшыя манкурты, збіраючыся гайнёю.

Неяк не па сабе становіцца, што «эрудыты» з Віцебшчыны ні словам не абмовіліся аб нацыянальным адраджэнні беларускага народа. Яны не прызнаюць, не прымаюць духоўна вялікую спадчыну Ластоўскага, Ігнатоўскага, Карскага. Што ім, манкуртам, да памяці і болю народнага, да гісторыі і паэзіі, да культуры і звычаяў нашай нацыі?! Ім галоўнае — «имперскость».

У свой час (у 1950 гадах) прыезджыя людзі з Якуціі, Узбекістана, Марыйскай АССР натварылі бед у беларускамоўнай школе-інтэрнаце г. п. Глуска, дзе дзеці цудоўна размаўлялі на мове сваіх бацькоў. Пастаянная бегатня «шукальнікаў шчасця» па райкамах і абкамах прывяла да пераводу беларускамоўнай школы на рускую мову.

Ці не таго ж хочуць віцебскія карэспандэнты «Правды», якія так неабдумана плююць у свой калодзеж?

Думаецца, што нумар іх не пройдзе!

Васіль ЛАЎРЫНОВІЧ,
настаўнік.

г. Глуск.

# Заява

## Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

Віцебская гарадская рада ТБМ правяла пашыранае пасяджэнне, на якім прысутнічалі прадстаўнікі абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры, выкладчыкі і студэнты ВНУ, настаўнікі, прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў горада, выхавацелі дзіцячых садоў, прадстаўнікі мясцовага друку.

Было адзначана, што апошнім часам у сродках масавай інфармацыі на Беларусі, у прыватнасці і ў Віцебску, з'явіліся патрабаванні аб наданні расійскай мове статуса другой дзяржаўнай.

Факт адначасовага з'яўлення публікацый, «круглых сталоў», заяў некаторых ветэранскіх арганізацый з прапановамі аб змяненні Закона аб мовах і надання статуса дзяржаўнай расійскай мове насцярожвае і дае падставу меркаваць аб пэўнай спланаванасці гэтай кампаніі.

Што да сутнасці справы, дык мы лічым:

1. Закон аб мовах, хоць і вельмі марудна, з вялікімі цяжкасцямі, але пачаў дзейнічаць.
2. Гэтая акалічнасць выклікае занепакоенасць у людзей нядобразычлівых да ўсяго беларускага, якія лічаць, што Беларусь, калі яна ў поўную моц загаворыць на сваёй мове, будзе немагчыма адлучыць ад самастойнасці і незалежнасці.
3. Перакручваецца сутнасць справы спасылкамі на лакальныя сацыялагічныя апытанні, якія быццам бы патрабуюць так званага двухмоўя. Назіраецца імкненне стварыць уражанне аб адчужанасці беларусаў ад беларускай мовы. Хоць сапраўднае ўсенароднае апытанне, праведзенае ў 1989 г. пры перапісе насельніцтва, сцвярджае: 80,2% беларусаў сваёй роднай мовай назвалі беларускую.
4. Наданне расійскай мове, якая ні юрыдычна, ні фактычна не дыскрымінуецца, статуса дзяржаўнай — абраза для суверэннай Беларусі і прыніжэнне годнасці яе народа.
5. Падобны акт, калі б ён адбыўся, прывёў бы да страты міжнароднага аўтарытэту і павагі да рэспублікі і яе народа.
6. Наданне расійскай мове дэ-юрэ статуса дзяржаўнай непазбежна паставіць крыж не толькі на пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы, а і на развіцці ўсёй беларускай культуры, адраджэнні і развіцці як беларусаў, так і прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць тут ад веку.

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# Не спытаўшы згоды...

З вялікім шкадаваннем павінен паведаміць, што адзін з кіраўнікоў Асацыяцыі пісьменнікаў баталістаў і марыністаў Беларусі, не спытаўшы згоды ні ў праўлення Асацыяцыі, ні ў агульнага сходу яе членаў, падпісаў заяву аб уступленні Асацыяцыі ў Каардынацыйны савет, які аб'ядноўвае палітычныя партыі і рухі. На пашыраным пасяджэнні праўлення мы разгледзелі гэту заяву. Большасць членаў Асацыяцыі з ліку тых, хто прысутнічаў, заяву аб уступленні Асацыяцыі ў Каардынацыйны савет прызнала несапраўднай і якая не мае юрыдычнай сілы.

А. СУЛЬЯНАЎ,
прэзідэнт Асацыяцыі пісьменнікаў баталістаў і марыністаў.

**Алесь ЗВОНАК,**
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі



# Я беларус

Цяжкія хмары цьмянай плашчаніцай
Укрылі спахмурнелы небакрай.
Зямля спякотнай смагаю дыміцца
І перуны здалёк грымяць: пара!

Пара! Зямля набракла прадчуваннем
Грымот шалёных, гулу навальніц,
І прагай да братэрства і яднання,
І ўваскрашэннем храмаў і капліц,

Каб тлумны свет хлусні і ачмурэння
Абноўлены, атрос нарэшце тлен
Дагматыкі, знявагі, прыніжэння,
На поўны рост узняўшыся з кален.

Каб, скінуўшы ланцуг дактрын іржавых
Тандэтных ісцін спарахнелы друз,
Я мог сказаць без боязі расправы:
Я—вольны сын свабоднае дзяржавы,
Я—беларус!

# Жагнанне

Напоўні мне лёгкія чыстым паветрам,
Пушчанскіх лясоў лёгкакрылая вея!
Яшчэ лебядзіная песня не спета,
Яшчэ дух бадзяжы ў знямозе не млее!

Зарой камунізму надыхаўся ўдосталь,
Ад бляску яго папсаваў сабе вочы.
Нахабная, ў госці прыходзіла проста
Кабета з касою і двойчы, і тройчы.

Надыхаўся тхлівай астрожнай да зморы
У чэраве цёмным панурай махіны,
У карцары мокрым, бы ў скрыні Пандоры,
Што сыпала шчодра і здзекі, і кпіны.

Надыхаўся чадам атрутным адчаю
На зыбістых хвалях Ахоцкага мора,
Надыхаўся крыкам стрывожаных чаек,
Надыхаўся бляскам астуджаных зорак...

Кідаў мяне ў пекла праліў Лаперуза
Пад лёкам задраеным цяжкім удушшам,
Не стаў я канвойнікам лішняй абузай,
Выпадкам не трапіў ў мёртвыя душы.

Надыхаўся водарам даўкім прыбою
Крыху гаркаватым і саланаватым,
Надыхаўся цемрай і пылам забою,
Блакітам нябёсаў праз частыя краты.

Надыхаўся ветрам калымскае сцюжы,
Блатным брыдкаслоўем і матам ад пуза.
Варнацкую долю ўсцілалі не ружы,
Не вельмі ласкава ўсміхалася муза.

Была яна найміткай клікі прыдворнай,
Была утрыманкай у сытай эліты,
Служыла душою і целам пакорна...
Пакінем. З гісторыяй мы йшчэ не квіты.

Яшчэ наш «любімец» пад тоўшчай бетону
Ляжыць каля самай пачэснай грабніцы,
Да лямпачкі кату мільёнаў праклёны,
Гул воплескаў кату усё яшчэ сніцца...

Напоўні мне лёгкія чыстым паветрам
Маёй незалежнай зямліцы, сталіца,
Я чую ўсім сэрцам твой голас прыветны,
Прымаю жагнанне бацькоўскай дзясніцы!

# Дышаль

Было й такое. Чорны след няславы,
Які здалёк па почырку відзён,
Засведчыў час крывавае расправы
Над лепшымі сынамі нашых дзён.

Было й такое: драму Курапатаў
Спісаць хацелі на чужынскі рэйх,
Каб на чужых віну ўскласці катаў
І тым прыкрыць свой сатанінскі грэх.

Цяпер, калі ўсе поскудзі раскрыты,
Калі вяршыць гісторыя свой суд,
Відаць, як рэшткі зрынутай эліты
Ссякаюць пад сабой ратунку сук...

І смех, і грэх, якім няма паўтору:
Хачу іду на суд, хачу—не йду!

Мяне ж сілком запхнулі ў «чорны воран»
І не спытаў ніхто «хаў ду ю ду!»

Затое так давалі ў хвост і грыву,
Што ў адзіночку мехам валаклі...
(Пракляты лёс грымасы строіць крыва,
Хоць ты ганьбуй яго, хоць ты хвалі!)

Відаць, закон што дышаль, і павінен
Яго трымацца кожны, ды не я...
А зрэшты, гэта ўсё ў чужой краіне
І хата з краю, хоць і не мая!

# Думы

Думи мої, думи мої,
Лихо мені з вами!
Тарас ШАЎЧЭНКА.

1

Канец стагоддзя твар скрывіў пачварны
І скрыжаваў нянавісці мячы.
А людзі прагнуць паратунку марна,
Ад родных хат губляючы ключы.

Зышла ў нябыт імперыя пакуты,
Мільгнуў між чорных хмар прамень надзей,
А ўжо грыміць зямля жалезам кутым
І неба растрывожана гудзе;

І страты, страты жыццяў чалавечых,
І пыл, і друз, і чадны пах руін,
І немы крык жанчын, і енк малечы...
Няўжо бязглузды свет сышоў на клін!!

Дзе ён, пачатак той злавеснай квадры,
Што насылае дым, агонь і кроў!
І гарам пахне з райскіх кушчаў Гагры,
І тленам вее з лаўравых гаёў...

2

Братэрству — крах. Дзярэ дыякан горла
Па убіенным, хто касцьмі палёг.
Гудуць званы пад гул гарматных жорлаў,
Не йдзе на помач усявышні бог.

Ізноў руку ўзнімае брат на брата,
Дарма Мерані шпорыць Эдуард,
Чым больш у рост ідуць акселераты,
Тым глупства больш, мацней яго азарт.

Хто не бываў у Гаграх ці ў Сухумі,
Хто цынандалі смак не паспытаў!!
Дзе наш хаўрус! Растаў у чадзе й тлуме,
Папраўшы веру ў бога і Хрыста!

Я часта з жалем згадваю сустрэчы
З нашчадкамі вялікага Шата́,
Дзе валатовых эўкаліптаў вечам
Нам вечар казкі Грузіі шаптаў,

Сустрэчы з Гамсахурдзія старэйшым
І поўны рог з бурштынавым вінам,
Студэнт Звіяд, сын Канстанцінаў першы...
Ах, гэта ўсё было даўно, даўно!..

3

Хто скажа, чорт які людзей паблытаў,
Братазабойству даўшы чорны ход,
Каб след крыві на старажытных плітах
Змываў слязьмі падмануты народ!!

Яна ж была чысцей, празрысцей, ява,
І свет надзей быў значна маладзей.
Адкуль жа злосць усёзнішчальнай лавай
Сумленне ў дым развеяла ў людзей!!

Няўжо ж вам, людзі, мала Карабаха,
Агню Цхінвалі і ахвяр Днястра!!
Няўжо свабоды сімвал—гэта плаха,
Якая прагне ласкі тапара!!

4

Жыве ж і ў нас амаль што ад калыскі
Боль раны, што й дасюль не зажыла.
Жыў-быў паэт Алесь Дудар калісьці,
Пісаў: «Пасеклі край наш папалам»...

За што і быў аплёваны й сасланы,
Замёў крывавы час яго сляды.
Не зажылі ж на целе нашым раны,
Нанёс якія мудры правадыр.

А сапраўды ж, пасеклі... у лік аплаты
Пайшлі і душы нашы, і зямля.
Наш горкі лёс ахвярамі багаты:
Каму улада й трон, каму—пятля!

Мы ж не крычым: Аддайце нашу Вільню!
Мы ж не галосім: Дзе наш Беласток!
Народ наш хоць і пільны ды цывільны—
Да плуга больш ці да камбайна схільны
І дабрынёй сваёй грашыць чуток!

5

Заўжды пасрэднасць прагне славы.
Мала
Ёй быць Іванам Грозным ці Пятром
Вялікім. Нават бедны наш Купала
Іх услаўляў пакутлівым пяром.

Не, ён ніяк не быў раўня Дзямя́ну,
Прыдворным блазнам ка́та не смяшыў,
Свайго народа сын вернападданы,
Ён супастатам не прадаў душы.

Хоць схібіў трохі, быў жа чысты сэрцам,
Сумленна жыў, загадкава памёр:
Падцікаваны быў майстрамі смерці,
Не ўратавалі мы, нам і дакор!

6

О, смутны час напрыканцы стагоддзя,
Спыні гульні смяротнае кругі,
Пакуль стыхія мсцівага разводдзя
Не паразмыла гневам берагі!

# Цень Вавілонскае вежы

Хорошо языком иностранным немножко владеть,
И владея чуть-чуть, до чего хорошо помолчать.
Помолчать, повертеть запотевшую рюмку в руке,
Потому что молчим мы как раз на одном языке.
А. КУШНЕР.

Добра вырасціць сад, назіраць, як зялёныя лапы
Гнуцца долу, сагрэтыя сонечным восеньскім днём,
Ад даспелых антонавак, райкі, каштэлі, сінапа...
Добра госця сустрэць маладым залацістым вінам!

Быў з Амерыкі госць — аднакашнік калымскі калішні,
Быў з Бруселя юнак-практыкант, адным словам, студэнт.
Госць у нас, беларусаў, як кажуць, ніколі не лішні,
Хоць не водзіцца ў нас ні той фунт, ні той франк, ні той цэнт.

Шчабятала дачка па-англійску з Масеем Сяднёвым,
Я ж на мове сваёй беларускай як рыба маўчаў,
А тым больш, што сядзеў за сталом трэці госць ганаровы,
Пракурор у мінулым, што ўсіх як шкалят павучаў...

У Нью-Йоркскай глушы не згубіў госць мой матчыну мову;
Там — шматмоўе, кангрэс жа гаворыць на мове адной,
Толькі ў нашым кангрэсе, між іншым, з усіх адмысловым,
На чужой мы гаворым, маўчым жа на мове сваёй!

А студэнцік, каб лепш размаўляць навучыўся па-руску,
Быў запрошаны ў Мінск—рускамоўны раён-рэгіён!
(Што спадар, значыць я, меў за мову дзесятку кутузкі,
Ні бум-лазара ведаць не мог недасведчаны ён!)

Як гаворыць біблейскі сюжэт, вавілонскую вежу
Брат старэйшы ляпіў, каб гучала гаворка адна.
Ён старанна заворваў этнічныя моўныя межы,
Скуль чароўная здань камунізму найлепей відна.

Што ж дзівіцца з таго, што не ў часе біблейскім, а сёння
На народ мой упаў вежы той праславутае цень;
Што ж здзіўляцца, калі адшчапенцу ў чужацкіх далонях
Некаторыя рэчы здаюцца намнога таўсцей!!

Вось таму і сінкліт наш вядзецца на мове не роднай.
Нігілізм!—так гавораць вучоныя нашы мужы.
Чый жа хлеб на стале ў абраннікаў нашых народных,
Што за мову чужую сапуць, паднапяўшы гужы!!

Сёе-тое паклаў бы на тых нігілістаў ці здрайцаў,
Што ваду так старанна, да поту, у ступе таўкуць,
Што ад матчынай мовы паспелі даўно адцурацца,
Што двухмоўны гібрыд у парламент сілком валакуць.
Пераконваць іх сэнсу не бачу, не варта й старацца,
Лепш пацісну я рукі Шушкевічу і Пазняку!

# Каляднае шчыраванне



**Пімен ПАНЧАНКА,**

**народны паэт Беларусі:**

**— Год 1992-гі... Якім быў ён? Ды, бадай, незвычайным. Незвычайным ужо тым, што ўсё лета стаяла страшэнная спякота. Такая, якой, кажуць, не бачылі гадоў пяцьдзесят. Але разам з тым ураджай атрыманы як быццам і не благі. Асабліва на Палессі. Прывезлі мне адтуль бульбы, дык — буйная, смачная. З маленства, здаецца, такой не еў. І народ, па ўсім, галадаць не будзе. Адведалі мяне нядаўна Старшыня Савета Міністраў Кебіч, міністры Вайтовіч і Краўчанка. Пагаварылі, паразважалі — здаецца, не ўсё так і кепска.**

**Ну, а што літаратура? Праўда, скажу толькі пра паэзію, пра тое, што бліжэй мне. За паэзіяй, нягледзячы на цяжкую хваробу, стараюся сачыць рэгулярна. Радуе, вельмі радуе мяне Сяргей Законнікаў, а яго паэма «Чорная быль» — рэч надзвычайная, па-сапраўднаму высокамастацкая. Падобныя творы не часта з'яўляюцца. З чытанага апошнім часам запомніліся творы Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Васіля Макарэвіча. Хаця, калі гаварыць пра паэзію ў цэлым, дык, на маю думку, аўтары і сёння пазбаўлены смеласці. Той самай адчайнай смеласці, якой доўгі час нам не хапала. Цяпер, здавалася б, усе ўмовы створаны, гавары прама пра набалелае, пішы. Ды чамусьці не заўсёды тое, што хацелася б, страчаем у друку.**

**Наконт года наступнага. Усе нас страшаць, што год 1993-ці будзе вельмі цяжкі. І для людзей, і для літаратуры. Па-мойму, многія цяжкасці (найперш эканамічныя) ад таго, што ўлады не даюць сялянам зямлю. Нават першыя захады, якія наконт гэтага прымаліся, зведзены, як кажуць, ні на што. Фермерства ж, па сутнасці, распалася. А ўзяць урадавыя праграмы па адукацыі? Яны слабыя, не заўсёды ўлічваецца тое асноўнае, на што неабходна арыентавацца. Рабіць жа трэба вельмі шмат. А мы з адных крайнасцяў пачынаем кідацца ў новыя. Спашлюся на нядаўні прыклад. Слухаю адну з перадач па радыё. Настаўніца пытаецца ў малых, што важней, што лепш — камбайн ці траўка? Разважыўшы, дык гэта ж супастаўленне немагчымага! Але на поўным сур'ёзе даводзіцца, што галоўнае — траўка, бо гэта божае стварэнне, а камбайн толькі вынік розуму людзей. Ды гэтак усю справу сапсаваць можна. Так ніколі не рабілася. Звярталася ўвага на вечныя, агульначалавечыя каштоўнасці.**

**Трывожыць мяне і тое, што не хапае падручнікаў — і для малодшых, і для старэйшых класаў. Тыя ж новыя, што напісаны ўжо (пра гэта мне казаў Ніл Гілевіч), своечасова не друкуюцца, бо пастанныя спасылкі на адсутнасць паперы. А падзенне тыражу газет, часопісаў? А становішча з выданнем беларускамоўных кніг? З аднаго боку — суверэнная дзяржава, нацыянальнае Адраджэнне, а з другога? Закрываюцца бібліятэкі, не папаўняюцца іх фонды. «Глухне» і нацыянальны тэатр. Я — не песіміст і таму будзем спадзявацца, што ў новым годзе наша жыццё палепшыцца.**

**Дзмітрый БУЛАХАЎ,**

**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь,**
**старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве:**

**— Так здарылася, што мы з жонкай пазнаёміліся пад Новы год. І дзве нашы дачушкі нарадзіліся блізка каля Новага года. Так што гэтае свята для мяне — сапраўды сямейнае. Сустракаем мы яго дома, іншым разам аб'яднаўшыся з суседзямі.**

**Мінулы год быў цяжкі. Адчуваю, што цяжар праблем, якія трэба было рашаць, не толькі не зменшыўся, а ўзрос. Праўда, пачуццё незадаволенасці зробленым дапамагае ў рабоце. Калі адчуваеш сябе ў камфорце, працаздольнасць зніжаецца. Работы было вельмі шмат, але зроблена не так многа.**

**Асабіста для мяне вельмі важна, што Вярхоўны Савет прыняў канцэпцыю прававой рэформы. Хаця вынікі яе прыняцця сёння, магчыма, незаўважныя, яны будуць адчувальныя ў наступным.**

**Канечне, галоўнае — прыняцце новай Канстытуцыі рэспублікі. Усе астатнія пытанні побач з гэтым другасныя. Яе прыняцце — найпершая задача на будучае.**

**Сваю будучыню я не аддзяляю ад будучыні нашай рэспублікі. Ды як жа йнакш? Я — грамадзянін гэтай краіны, маім дзецям тут жыць... Іншае пытанне: як разумець гэтую будучыню?**

**Я вельмі хачу, каб мы перасталі шукаць ворагаў унутры свайго грамадства і пачалі працаваць. Як бы нас ні дзялілі на «нашых» і «нянашых», на харошых і благіх, усім нам трэба зразумець, што Беларусь — гэта маленькі карабель. Калі ў шторм каманда замест аўралу пачынае біцца між сабой, таму што капітан не падабаецца памочніку, памочніку не падабаецца рулявы, а рулявому — матрос-матарыст. такі карабель у шторм перакуліцца. Давайце помніць пра гэта.**

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ,**

**гісторык, археолаг:**

**— 1992 г. запомніўся як апошні год творчай свабоды. На пасадзе галоўнага спецыяліста па археалогіі ў творчай майстэрні С. Баглася мeў магчымасць зарабляць на жыццё і свабодна займацца навукай. За адзін месяц зарабляў жыццёвы мінімум на чатыры. На службу хадзіць не трэба, працу рабі дзе хочаш, толькі здавай у тэрмін. Не верылася нават такому шчасцю. І плён быў — зрабіў дзве кніжкі.**

**Цяпер жа трэба ісці на нейкую іншую службу, каб карміць сям'ю, і волі прыйшоў канец.**

**А маю зараз 34 гады і адчуваю прагу да навукі і ведаю, што атрымліваецца.**

**Запомнілася яшчэ лета, археалагічныя экспедыцыі, сустрэчы з сябрамі, паездкі на Чорную Ганьчу, свята ў Навагрудку.**

**Запомнілася забарона рэферэндуму аб роспуску парламента. Вестка аб забароне заспела ў позняй экспедыцыі, калі я сядзеў у заснежаным раскопе і ляскаў зубамі ад холаду. Да дыскамфорту фізічнага дадаўся псіхічны, доўга не мог супакоіцца ад абурэння, хацелася ісці і біць кулаком па шыроніх дэпутацкіх мор... прабачце, твараx.**

**Ад 1993 года чакаю далейшага пагаршэння жыцця. Спадзяюся, што беларусы нарэшце вырашаць турнуць ад карміла ўлады паўнашчокіх апаратных малойцаў, якія, здаецца, ужо канчаюць будаваць уласныя персанальныя катэджы і таму лягчэй паддадуцца. Спадзяюся пасунуць уперад адну цікавую працу (аж рукі чэшуцца да яе дарвацца).**

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# Літаратура ў краіне Сакрэту

ЭСЭ

## 1. СІТУАЦЫЯ

Беларусь... Што вымаўляем, мовячы гэтае рафінаванае, не тутэйшым досведам народжанае слова? Пытанне не выпадковае, бо этнаграфічна, геаграфічна, гістарычна, палітычна... Беларусь — гэта розныя суб'екты, якія мы даволі ўмоўна паядноўваем адным этнонімам. Да таго ж сэнсы гэтых суб'ектаў цьмяныя, рысы няўстойлівыя, логіка іхняга быцця заблытаная і невыразная. Хіба толькі з гледзішча эканомікі і сучаснай палітычнай геаграфіі мы набылі ў нейкай ступені завершаны аб'ём.

Яшчэ складаней што-кольвек пэўнае засведчыць пра Беларусь, як пра нешта цэласнае ў духоўным сэнсе, і ўжо зусім немагчыма вызначыць для яе агульнае эстэтычнае поле.

Калі мы гаворым «гаспадарка Беларусі», то нашыя словы абапіраюцца на існуючую рэальнасць, на дзейсны гаспадарчы комплекс і, значыць, збольшага адпавядаюць рэчаіснасці. Сказаць жа «духоўны ідэал беларусаў», зважаючы на нейкую духоўную дамінанту народа, значыць усяго толькі сказаць. Пакуль, у культуралагічным сэнсе, Беларусь немагчыма ўявіць нечым адзіным, гэта хутчэй архіпелаг, дзе ўнутры азначанай дзяржаўнымі межамі прасторы раскіданыя вялікія і зусім дробныя астраўкі беларушчыны.

Сярод шматлікага насельніцтва нашага краю, абраўшага для ўжытку эстэтычную трасянку, наўрад ці знойдзецца болей за некалькі дзесяткаў тысяч тых беларусаў, якія злучаныя паміж сабой адзіным духоўным кантэкстам і спавядаюць тоесны нацыянальнай сутнасці эстэтычны ідэал.

Што і казаць, «сацыялогія» тут досыць умоўная, прапорцыі адвольныя, мяжа паміж тымі і другімі беларусамі рухомая, паўсюдна колькі заўгодна памежкавых сітуацый, але ў агульнай канстанце немагчыма не заўважыць выразна акрэслены падзел.

Гэтыя нешматлікія беларусы сярод беларусаў, эмігранты ў сваёй краіне (паводле верша Леаніда Дранько-Майсюка), складаюць патаемную супольнасць, своеасаблівы духоўна-эстэтычны ордэн. У нейкім сэнсе яго можна было б параўнаць з масонскай ложай, бо сябры гэтага ордэна ў сваіх напаўсвядомых трызненнях таксама мрояць пра Храм, велічна-гожы Храм нацыянальнага духу, але відавочна, што такое параўнанне будзе залішне адвольным. У адрозненне ад масонаў, іх нішто, акрамя роднай мовы, мастацтва, літаратуры, не звязвае паміж сабой. Статут, клятва, абрад, падначаленасць і да таго падобнае ім невядомыя. Сяброў гэтага ўмоўнага ордэна я б хутчэй параўнаў з прыдуманай Хорхе Борхесам сектай Фенікс, інакш людзьмі Сакрэту. Яны, як і сектанты Борхеса, нічым не вылучаюцца сярод астатніх, як і людзей Сакрэту іх не аб'ядноўвае фармальная атрыбутыка, і толькі таямнічае пакліканне, якое не парываецца ад веку, скіроўвае іх цьмяна акрэсленыя памкненні ў адзіным накірунку.

Некалі Блез Паскаль казаў: «Сэрца чуе Бога, а не розум». Гэта той самы выпадак. Розумам, логікай немагчыма вытлумачыць спрадвечнае, праз вякі працяглае існаванне сяброў ордэна беларусаў, ёсць нешта містычнае, мройлівае ў іх маўклівай зацятасці, нейкім паныльм ірацыяналізмам, патыхае ад іх закарэлай трывучасці. Насуперак усім «гістарычным» абставінам, як бязмозглая трава праз асфальт, яны прасякаюць задуху нетраў, каб пакласці галаву пад абцас. Прозвішчы большасці з іх так і застаюцца нявымаўленымі, але сам феномен выразна прачытваецца з біяграфіі тых, хто апынуўся навідавоку: Чачот, Багрым, Багушэвіч, Багдановіч і, можа, найперш, граф Альгерд Якаў Абуховіч-Бандынэлі. Выхаванец Жэневы і Парыжа, знаўца англійскай, французскай, нямецкай, італьянскай, іспанскай моў, на бацькаўшчыне далучыўся не да магутных расейскай ці польскай культур, а заахвяраваў сваім жыццём і творчасцю дзеля таго прывіднага, што Шапенгаўэр называў «геніем роду»...

Але тут я, згодна задуме, вымушаны перавесці плынь гераізаванай дэкламацыі ў больш плыткае рэчышча цяперашніх літаратурных дачыненняў.

## 2. КАНТЭКСТ

Сучасны беларускі літаратар жывіцца ідэямі, канцэпцыямі, вобразамі еўрапейскай і сусветнай культур, звычайна запазычанымі праз літаратуру-пасрэдніка (найчасцей расейскую), ці напрасткі — расейскай, а працуе, творыць у літаратуры даволі далёкай ад гэтых канцэпцый, ідэй, вобразаў.

Сам па сабе факт прылучэння да іншых культур яшчэ ні аб чым не гаворыць. Якой багатай ні была б літаратура таго ці іншага народа, яна ніколі не задаволіць цалкам патрэбы творцы. Зрэшты, немагчымасць самаабслугі закладзена ў прыроду цывілізацыі. Выбух духоўнасці ў той ці іншай частцы свету нават міжволі вымушае азірнуцца туды, дзе грымоты. Пранізлівы бляск інтэлектуальных маланак слепіць і моцна заплюшчаныя вочы. Гэта ў крайнім выпадку культуралагічнага этнацэнтрызму. Звычайна прылучэнне да эстэтычна не-родных знакаў адбываецца самахоць, у сілу натуральнага памкнення да тых праяў творчасці, якія выяўляюць невядомую дагэтуль прыгажосць.

Але выпадак з беларускім літаратарам асобны, і было б памылкай разглядаць яго ў агульнай сістэме культуралагічных дачыненняў. Наш літаратар з роднай яму культуры чэрпае жменькай, а з другіх п'е нагбом, і чым буйнейшы ягоны творчы патэнцыял, тым большае гэтая дыспрапорцыя не на карысць роднай літаратуры. Прычына згаданай анамаліі, пэўна, вынікае з таго, што родная літаратура не тоесная духоўнаму стану беларускага літаратара, сфармаванага на іншых, не з роднай літаратуры, эстэтычных рэаліях...

Здавалася б, у сваёй творчасці ён і павінен выяўляць гэты з сусвету назапашаны вопыт (мы помнім Бюфона: стыль — гэта чалавек), але чамусьці не выяўляе.

Парадаксальнасць сітуацыі якраз і бачыцца ў тым, што, ствараючы нешта на беларускай мове, у кантэксце беларускай літаратуры, літаратар стварае на ўзроўні літаратуры, а не на ўзроўні сваіх ведаў, свайго разумення чалавека і людства. Аказваецца, сам кантэкст літаратуры вымагае быць роўным яму, аказваецца, ён не трывае нікога паперадзе сябе. Літаратурны кантэкст — гэта тая сцяна, да якой прыкуты мастак, і самае большае, што ён можа — адбегчыся на даўжыню ланцуга.

Згаданую сітуацыю можна было б праілюстраваць на прыкладах сучаснага пісьменства, але каб пазбегнуць непаразуменняў, звернемся да мінуўшчыны. Зрэшты так яно будзе і больш паглядна і, магчыма, больш пераканаўча, бо, акрамя іншага, падкрэсліць старажытнасць паходжання гэтай драмы беларускага літаратара.

Пачнем з Міколы Гусоўскага. Напэўна, большасць пагодзіцца, што яго знакамітая паэма аніяк не магла быць напісана такой, якой яна была напісана, у рэчышчы старажытнабеларускай мовы і той, уласна «беларускай», культуралагічнай сітуацыі, што склалася ў першай чвэрці шаснаццатага стагоддзя на абшарах нашае бацькаўшчыны... Яшчэ больш кантрастна ілюструе згаданую тэзу творчасць Фёдара Дастаеўскага. Уявім сабе, што ў тую ж пару ён нарадзіўся і вырас на Беларусі, атрымаў тут адукацыю і стаў працаваць на беларускай літаратурнай ніве. Бясспрэчна, мы займелі б класіка беларускай літаратуры, але гэтак жа бясспрэчна, што свет згубіў бы аднаго з найвялікшых пісьменнікаў за ўсю гісторыю чалавецтва... Калі будуць знойдзены беларускія вершы Адама Міцкевіча, яны нам таксама прадэманструюць тую розніцу паэтычнай культуры (у гэтым можна не сумнявацца), якую дыктуе творцу культуралагічны кантэкст.

Не станем множыць прыклады, іх на Беларусі — як мала ў каго. Зазначым толькі, што мастак заўсёды імкнуўся перадолець інерцыю кантэксту, і ў сяго-таго гэта амаль атрымлівалася (Багдановіч, Разанаў).

З усяго папярэдняга вынікае, што беларускі літаратар працуе і не для сябе, паколькі сам мацуецца іншымі эстэтычнымі сэнсамі, і не для чытача, бо той гэтаксама круціць носам над абрыдлай поліўкай і цягнецца да замежных ласункаў, а дзеля кантэксту, дзеля доўжання, непарыўнасці літаратурнага працэсу з магчыма неўсвядомленым жаданнем выцягнуць, выраўняць гэты кантэкст, каб некалі зажыць нармалёвым, тоесным самому сабе літаратурным жыццём.

## 3. НАЦЫЯНАЛІЗМ

Пад нацыяналізмам звычайна разумеюць не экзістэнцыяльнай бясконцасці духоўную ідэю, а нацыянал-патрыятычныя эмоцыі. Як быццам — дарэмна, але ўнікнем супрацьпастаўлення. У нацыяналізму і нацыянал-патрыятычных эмоцый агульны корань, а розніць іх між сабой, разводзіць у адваротныя станы — асоба. Яе кшталт вызначае гуманістычную вартасць нацыяналізму. Каб праілюстраваць гэтую выснову, згадаю побач з Васілём Розанавым маскоўскага рамізніка, які пагатоў сваёй рукой выдзерці пейсы ўсім жыдам, колькі іх ёсць на белым свеце...

Тое, што нацыяналізм трэба як мага хутчэй выводзіць за межы нацыянал-патрыятычных эмоцый і адначасна ўзвышаць над плоскасцю палітычна самаахоўнае ідэі, сталася відавочным пасля года-другога шчырых дэкламацый і палкай рыторыкі на вызваленую з-пад прыгнёту тэму. Сярод іншых спроб у гэтым накірунку найбольш плённай, здаецца, аказалася тэндэнцыя да інтэлектуалізацыі нацыяналізму, што азначала рацыяналізаваць яго (Сяргей Дубавец, «ЛіМ», № 40, 1990 г.), з аднаго боку, і выявіць у ім змест усеахопнага духоўнага значэння — з другога. А ў прамежку — на падставе нацыяналізму актуалізаваць увесь суплёт сучасных інтэлектуальных і эстэтычных ідэй.

**(Працяг на стар. 15).**

**НОВЫЯ ЛЮДЗІ**

**«ПРАЗ ЭКАНОМІКУ — ДА КУЛЬТУРЫ» — дэвіз акцыянернага таварыства «Кросны», некалькі месяцаў таму створанага ў Менску. Сярод яго заснавальнікаў — суполка мастакоў «Пагоня», Нацыянальная мастацкая галерэя. «Кросны» актыўна ўлучыліся ў наладжанне новай эканомікі. Па якіх прынцыпах яна ствараецца! Дзеля чаго! У імя чаго! Аб гэтым наш карэспандэнт гутарыць з генеральным дырэктарам таварыства сп. Янам ГРЫБАМ.**

**У НОВАЙ ЭКАНОМІЦЫ — НОВЫЯ ЛЮДЗІ!**



## Ян ГРЫБ:

# «Хачу, каб былі заможнымі і свабоднымі мае дзеці»

**— Спадар Грыб, амаль у кожнага свайго суразмоўніка—пісьменніка, навукоўца, палітыка— я цікавіўся думкамі наконт магчымасці ўзнікнення г. зв. сярэдняга класа ў Беларусі, пытаючыся, між іншым, ці не хвалюе іх, хто патрапіць у гэты клас. Мае дагэтуляшнія суразмоўнікі па большасці выказвалі ўпэўненасць, што прадпрымальнікі Беларусі, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, падтрымаюць адраджэнне і ўсталяванне самастойнай дзяржаўнасці; акрамя таго, беларусы, вызваленыя ад клопату пра эканоміку, атрымаюць магчымасць тым часам займацца гуманістыкай, культурай... А на ваш погляд, спадар Грыб, ці абгрунтаваныя такія спадзяванні?**

— Сэнс вашага пытання добра зразумеў, бо сам вельмі доўга над ім думаў і думаю цяпер. Маё глыбокае перакананне: на сёння ў Беларусі складваецца сітуацыя, якая ўжо мела прэцэдэнт. Светлай памяці Міхась Ткачоў, выступаючы на ўстаноўчай канферэнцыі нашага таварыства, пацвердзіў мае ўласныя думкі і сумненні. Перад кастрычніцкім пераваротам 1917-га года на Беларусі на дзяржаўных пасадах — ад самай ніжэйшай да самай высокай — былі пасаджаны толькі расейцы. Такой была палітыка Расейскай імперыі на ўскраінах. У прадпрымальніцтве стан выглядаў прыблізна так: габрэяў — да 45%, расіян — да 15%, палякаў — каля 8%, літоўцаў — каля 5%, татары, грузіны... і г. д. А беларусаў — гаспадароў краю — ажно 1-1,5%! Уяўляеце сітуацыю: з дзесяцімільённага народа, аснову якога складаюць беларусы, — каля 8 млн., — у бізнесе толькі 1,5%! Астатні народ хадзіў за сахою...

Дык вось: праўдападобна, што такое ж становішча ў эканоміцы - прадпрымальніцтве складваецца і цяпер.

**— Можа, маеце дадзеныя статыстыкі на гэты конт?**

— На жаль, такой статыстыкі ў мяне няма, бо, здаецца, ніводзін інстытут ці сацыялагічны цэнтр ёю не займаецца — прынамсі, мне невядома пра такую працу. А дарэмна, бо такія падлікі былі б каштоўнымі для зразумення агульнай сітуацыі ў грамадстве.

Але мая пазіцыя грунтуецца на асабістым вопыце, дзелавых кантактах і да т. п. Сітуацыя, так бы мовіць, на паверхні.

Той жа М. Ткачоў сцвярджаў, што ці не з-за адсутнасці дастаткова моцнага і ўплывовага класа **беларускай** буржуазіі (у сэнсе — сярэдняга класа спаміж карэннай нацыі) не перамагла і не магла перамагчы ў 1918-м годзе Беларуская Народная Рэспубліка. Яна не была як след падтрымана нацыянальнай буржуазіяй — замоўцам незалежнай дзяржавы. Хоць, вядома, ёсць і іншыя, гістарычныя фактары таго паражэння...

Сярэдні клас складае аснову нацыі, падтрымоўвае сацыяльна-палітычныя памкненні інтэлігенцыі, нацыянальна-культурнае ўладкаванне жыцця таго ці іншага народа.

Тыя навукоўцы, пісьменнікі, а тым больш палітычныя дзеячы, якіх вы ўзгадалі напачатку, — трагічна памыляюцца. Такая перакананасць інтэлігенцыі шкодная для цяперашняга беларускага адраджэння.

**— Вы лічыце, што прадпрымальнік-«бізнесмен» — «інародзец»—не пахінецца да адраджэння?**

— Сёння гэта відавочна. Я ніводнага разу яшчэ не чуў, каб тутэйшыя прадпрымальнікі падтрымалі якія-небудзь культурна-гуманітарныя праграмы. Хто з прадпрымальнікаў падтрымаў прыняцце вайсковай прысягі 8 верасня 1992 года? Там былі патрэбны невялікія ўвогуле выдаткі, але ніхто іх не з'ахвяраваў, акрамя вядомай ужо фірмы «Дайнова» (дай Бог здароўя і шчасця яе прэзідэнту сп. Адаму Палюховічу). Акрамя «Дайновы» няма каго назваць.

**— Ёсць такі закід: маўляў, нясхільнасць да прадпрымальніцтва закладзена ў менталітэце беларусаў...**

— У нечым, можа, вы маеце рацыю, таму што, на маё перакананне, менталітэт беларускі спрыяе працы вельмі канкрэтнай, уседлівай, вытворчай. А прадпрымальніцтва — гэта бізнес, выробленне грошай. Беларусам у пэўнай ступені чужды гэты занятак. Але няўжо ў нас не хопіць розуму з'арганізаваць уласны бізнес?

Я паважаю ў гэтым сэнсе розум і настойлівасць габрэйскага народа, які спрадвеку жыве разам з беларусамі і, я лічу, паказвае ўзоры прадпрымальніцтва... У іх нам патрэбна вучыцца бізнесу, ды не толькі яму: яшчэ й захаванню нацыянальнай годнасці, аблічча, традыцый — не зважаючы на жудасныя знешнія ўмовы дзеля габрэйскага нацыянальнага жыцця.

**— У каго вучыліся вы, спадар Грыб, акрамя габрэйства; ці існуе гістарычная традыцыя ўласна-беларускага прадпрымальніцтва?**

— Магчыма, такія прыклады ёсць, але яны нам невядомы: мы ж не ведаем гісторыі агульнай, не кажучы ўжо пра такія дэтальныя звесткі. Перад вачыма ў мяне, як і ў іншых беларускіх прадпрымальнікаў, нічога з гісторыі не было. Мы звычайныя «свядомыя беларусы», хто душой хварэе за наша нацыяльнае станаўленне, адраджэнне пачуцця гаспадара на свае зямлі. Мы часта збіраліся і разважалі: «Хлопцы, давайце штось будзем на сваёй зямлі рабіць — самі». Тут наша пазіцыя пераклікаецца з пазіцыяй Сакрата Яновіча: «Беларусы, пра свае справы мусіце гаварыць самі».

На такой аснове і ўзнікла акцыянернае таварыства «Кросны».

**— Колькі слоў пра станаўленне таварыства.**

— Калі прадпрымальніцтвам у краіне займаюцца па большасці прышлыя камерсанты — не важна, скуль, — дык у іх адно памкненне—паболей хапнуць, набіць кішэні. Пра рэспубліку і дабрабыт народа рэспублікі, а балазе пра культурнае мецэнацтва гэтыя дзялкі дбаць ніколі не будуць. У такіх жорсткіх варунках беларусам трэба гуртавацца паўсюль, у тым ліку і ў бізнесе, — каб самім вызначаць і ўдасканальваць лад жыцця ў сябе дома, ставіць яго на нацыянальную —у сэнсе ўласна-беларускую— аснову.

Менавіта нацыянальна-свядомыя прадпрымальнікі, патрыёты будуць клапаціцца пра заўтрашні дзень не толькі саміх сябе, але і свайго народа, суграмадзян. Толькі яны — больш ніхто. Натуральна, бізнес межаў не ведае, і мы не збіраемся замыкацца ў сваім коле. Мы будзем супрацоўнічаць з любымі структурамі — але толькі пад тым варункам, калі гэта будзе на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**— А што вы, спадар Грыб, маеце на ўвазе пад паняццем «інтарэсы народа»?**

— Калі мы не зладзім беларускага сярэдняга класа, уся гэтая «дэмакратыя», абвешчаная посткамуністычным Вярхоўным Саветам, — рассыплецца на вачах. Таму што няма тае сацыяльна-эканамічнае сілы, якая падтрымае ўладкаванне сапраўднай дэмакратыі на Беларусі. А калі не ўладкуецца дэмакратыя, тады мы зноў скоцімся ў таталітарызм, з якога драматычна выкарасваліся і выкарасваемся. Акрамя гэтага, беларусы так і не пераадолеюць сваю «краёвасць» — паўночна-заходнюю.

**— Значыцца, вы падзяляеце вызначэнне «кампрадорская буржуазія»?**

— Безумоўна, да нейкага ўзроўню такая з'ява мае месца.

Буржуазія — пры дэмакратычнай сістэме — рухавік эканомікі і культуры любой краіны, гэ¯а зразумела...

**— А якога адцення кампрадорская буржуазія ў Беларусі — заходняга ці ўсходняга?**

— Мне здаецца, нам не трэба хінуцца ані да Захаду, ані да Усходу, — нам трэба ствараць сваё.

**— Што ж замінае станаўленню ўласнай бізнесавай структуры?**

— Замінае толькі адно — няпэўнасць палітычнай сітуацыі, якую стварылі сучасны ўрад і парламент. Гэтая няпэўнасць і так званыя «законы», спароджаныя ў ёй, — не даюць магчымасці паўстаць новай эканоміцы. У дэмакратычных краінах, калі ўтвараецца новае прадпрыемства, ягоныя стваральнікі на пэўны тэрмін вызваляюцца ад падаткаў. Урад жа В. Кебіча пры дапамозе наменклатурнай часткі Вярхоўнага Савета з прадпрымальнікаў выграбае такія падаткі, што на карані душацца новыя структуры.

Асноўная задача акцыянернага таварыства — падтрымка існуючых малых прадпрыемстваў на Беларусі і ўтварэнне новых. Але з-за падаткавай палітыкі ўрада гэтая праца сёння становіцца вельмі няўдзячнай. МП зараз выплачваюць у падаткі ад 60-ці да 70-ці і больш працэнтаў з прыбытку. Які прадпрымальнік дасць рады ўтрымаць сваю справу, калі ён не можа забяспечыць людзям-работнікам нават заработную плату, не кажучы ўжо пра развіццё прадпрыемства? Але без развіцця прадпрыемства загіне...

Таму, каб зарабіць нейкую капейку — а стварэнне новых прадпрыемстваў патрабуе капіталаўкладаў, — наша акцыянернае таварыства, апроч іншага, займаецца і бізнесам. Але і тут — «дзякуючы» створанай урадам сітуацыі — вельмі цяжка нешта зарабіць. Забаронены бартэр, забаронены прамыя разлікі паміж рэспублікамі, прыдуманы зерневы фонд, у які патрапілі тэлевізары, халадзільнікі, газавыя пліты... Цяпер мы не можам паставіць газавыя пліты ў Казахстан, каб купіць там хлеб больш танна, чым гэта робіць урад, і да т. п.

Манаполіі на гандаль тытунёвымі вырабамі, гарэлкай... Цяпер гэтыя тавары цыркулююць у ценявой эканоміцы, прадаюцца падпольна і ўвесь гэты бізнес пайшоў нячэсным шляхам, не можа быць абкладзены падаткамі ўвогуле. Парадокс: пры такой жорсткай падаткавай палітыцы ў бюджэт патрапляе менш сродкаў, чым магло быць.

**— Па вашых словах выходзіць, што прадпрымальнікі і урад знаходзяцца ў адносінах процістаяння, а не супрацоўніцтва. Няўжо нельга пайсці на ўзаемныя кампрамісы? І, дарэчы, чаму ў такім разе прадпрымальнікі Беларусі не падтрымалі ідэю рэферэндуму?**

— Мой асабісты погляд. Яшчэ на першай асамблеі дзелавых колаў Беларусі В. Кебіч абяцаў перагледзець падаткавую палітыку і такім чынам падтрымаць прадпрымальніцкія структуры. Як заўсёды Старшыня Савета Міністраў нас абмануў: практычна не было зроблена нічога, але ён дабіўся таго, што прадпрымальнікі яму паверылі, — тыя, хто вагаўся, пранікнуліся даверам, тыя, хто і раней верыў, паверылі яшчэ мацней, а такіх перакананых «нявернікаў», як я, засталося няшмат. Я больш чым упэўнены, што Уладзімір Іванавіч Карагін, да якога я стаўлюся з вялікай павагай, — таксама паверыў В. Кебічу. Здаецца, цяпер ён расчараваўся...

**— Ваша стаўленне да Саюза прадпрымальнікаў?**

— Стаўленне ўвогуле станоўчае, таму што, каб прадпрымальніцтву выжыць з такім урадам і Вярхоўным Саветам — яму трэба гуртавацца.

**— З якой палітычнай сілай вы звязваеце надзеі на будучае?**

— Калі мы ствараліся, дык шмат разоў збіралі арганізацыйны камітэт, і да гонару ўсіх нашых дэмакратычных рухаў і структур рэспублікі не было ніводнага, якое б не падтрымала стварэнне такога акцыянернага таварыства, як наша. Гэта і Нацыянальна-дэмакратычная партыя, і БСДГ, але найперш Беларускі народны фронт. Вось на гэтыя сілы, хоць яны пакуль што слабыя і разрозненыя, ускладаем надзеі — кажу гэта і ад імя сваіх паплечнікаў і аднадумцаў. Мы спадзяемся, што нацыянальна-дэмакратычныя сілы з цягам часу ўзмоцняцца і ўрэшце калі не прыйдуць да ўлады непасрэдна, дык абавязкова паўплываюць на палітычную сітуацыю такім чынам, што яна на Беларусі пачне выпраўляцца і вельмі хутка.

Мы не дамагліся рэферэндуму, што, на жаль,моўчкі праглынула сусветнае супольніцтва. Але я спадзяюся, што мы дажывем да новых выбараў і што да таго часу ў значнай часткі народа адкрыюцца вочы на нашу рэчаіснасць.

**— Дзе ў эканамічным сэнсе, на ваш погляд, знаходзіцца наша пасляперабудовачнае грамадства?**

— Тут няма абсалютна ніякай работы з народам. Нашы людзі як былі выхаваны ў такім люмпенізаваным напрамку, так і застаюцца гэткімі. На люмпенаў абапіраліся бальшавікі. Стагоддзе бальшавізму не мінулася бясследна: паглядзіце, як г. зв. «простыя людзі» ставяцца да тых суграмадзян, хто захацеў стаць фермерам, працаваць ад цямна да цямна, каб разбагацець, каб жылося заможна дзецям ягоным, каб заможнела краіна наша...

**— ...Каб фундавалася культура і мастацтва...**

— ...Да такіх людзей яны адносяцца як да ворагаў. Псіхалогія гэтая з народа аніяк не выпетрыцца. І тутэйшыя посткамуністычныя структуры робяць усё, каб псіхалогія гэткая заставалася.

— ?

— Таму што гэткая грамадская псіхалогія, гэткі стан грамадства даюць ім магчымасць займацца ўласным бізнесам — і па большасці антынароднымі шляхамі.

Структурам, якія створаны пры ўрадавых ці былых пар-

**(Працяг на стар. 12).**



**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ,**

**фальkларыст:**

—Я—прадстаўнік сціплай, непрыкметнай прафесіі. Да нас рэдка звяртаюцца: калі некаму трэба правесці ці адзначыць нейкае свята. Вось і думаю: каму твае слова можа аказацца цікавым, асабліва цяпер, калі столькі прэтэндэнтаў у лідэры, а з другога боку — адзіны ва ўсіх клопат: выжыць. Цешыць, што сярод гэтых «усіх» нямала набярэцца і такіх, якім важна не проста выжыць, а застацца чалавекам, захаваць у сабе духоўнасць. З якіх жа крыніц трэба чэрпаць нам, каб узбагачацца душой? Невераемна, але прайшоўшы сёння па ўсіх сталічных кнігарнях, мы не знойдзем ніводнае кнігі па фальклоры, ніводнага альбома па беларускім мастацтве, ніводнае беларускае пласцінкі. І гэта ў час, калі хваля нацыянальнага адраджэння ўзнімаецца як ніколі высока, калі сучаснік літаральна прагне ведаў па нацыянальнай культуры.

Апошнім часам я, не саромеюся прызнацца, не сядзеў склаўшы рукі. Вынік—у розных выдавецтвах у чаканні спрыяльных магчымасцяў ляжаць 6 маіх рукапісаў (некаторыя ўжо і з афармленнем і нават у карэктуры).

Збіраюся несці і 7-ы рукапіс—1-ы том вялізнага трохтомніка «Прыкметы і павер'і». Але разам з томам, каб ён быў узяты ў вытворчасць, я павінен прынесці ў выдавецтва... паўмільёна. Так яны ў мяне і былі!

Дык патрэбны мы і тое, што мы робім, камусьці ці не? Менавіта пачуццё ўласнай незапатрабаванасці прымусіла мяне сёлета адважыцца на змену працы. Акадэмія навук, дзе я адпрацаваў амаль 20 год, перастала ўспрымацца мною і многімі калегамі родным домам (і тым больш «храмам навукі»). Не хацеў бы выглядаць няўдзячным, дабро памятаю, але і не сказаць праўды не магу. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, як уяўляецца не аднаму мне, перажыў сваю лепшую пару. Адзіная мэта сённяшняга састарэлага кіраўніцтва—гэта ўтрымацца самім і, як падкрэсліў дырэктар, вядомы ўсім С. Марцалеў, «захаваць касцяк». Касцяк-то касцяком, аднак калі не нарошчваюцца на ім мышцы, калі не абнаўляецца кроў—які толк з яго? Вось і атрымалася, што кіраўнікі розных рангаў, трымаючыся з усіх сіл за крэслы і пасады (і немалыя аклады), нібыта бядуюць: «Няма каму перадаць эстафету!» Прабачце, але ж ці не яны самі ледзь не ўсё сваё працоўнае жыццё набіралі аспірантаў, выпускалі кандыдатаў (куды толькі яны падзеліся?), нарэшце, атрымлівалі за іх падрыхтоўку дзяржаўныя грошы і званні прафесараў? Мала хто са старэйшых можа пахваліцца сваімі вучнямі, сваёй школай. З абыякавасцю адміністратараў інстытута сутыкнуўся кожны, хто яго пакідаў. Ідзеш і ідзі, абыдземся. Не спадзяваўся, што такое ж пытанне паўстане і перада мною. Ну дзеля чаго пісаць гэтыя вымучаныя «планавыя тэмы»—каб пакласці ў шуфляду?

І вось я на іншай працы. Выкладаю фальклор у педагагічным інстытуце. Не мне меркаваць, што і як цяпер у мяне атрымліваецца, аднак калі я бачу нейкую ўвагу, зацікаўленасць маёй юнай аўдыторыі (ці хаця б асобных твараў)—я ўсцешаны. Значыць, некаму патрэбны. Патрэбны не я адзін. Нас, калег-фалькларыстаў, ужо не першы раз клічуць на навуковыя сесіі і канферэнцыі ў Польшчу; да нас звяртаюцца з Новасібірска і Уладзівастока з просьбаю супрацоўнічаць у складанні тома фальклору беларусаў-перасяленцаў Сібіры і Далёкага Усходу (дзе, дарэчы, мы таксама два леты папахадзілі-папаездзілі ў экспедыцыях).

Такі быў мой працоўны год—з трывогамі, клопатамі, радасцямі і расчараваннямі. Цяпер збіраю на фальклорную практыку сваіх студэнтаў-выхаванцаў. Пажадайце ім добрай дарогі!

**Аляксандр КУЛЕШ,**

**падпалкоўнік, кандыдат гістарычных навук:**

— Мінулы, 1992 год, для мяне, афіцэра, прафесійнага вайскоўца, чалавека, які нарадзіўся і вырас на Беларусі, памятны тым, што мая краіна, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, месяц ад месяца мацавала сваю дзяржаўнасць. Рэспубліка Беларусь як суверэнная дзяржава ўвайшла ў сусветную супольнасць.

Адзін з асноўных кампанентаў нацыянальнай незалежнасці — уласнае войска. Таму і праблемы, што ўзнікаюць у працэсе стварэння Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, так ці інакш датычаць усіх грамадзян рэспублікі. Зразумела, што праблемы гэтыя не могуць не турбаваць мяне і маіх аднадумцаў — сяброў Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Нашы намаганні, безумоўна, паўплывалі на ходу леташніх падзей. 18 сакавіка была прынята пастанова Вярхоўнага Савета аб стварэнні Узброеных Сіл Беларусі. Беларускае войска стваралася шляхам рэарганізацыі і перапарадкавання былой Беларускай ваеннай акругі, але вайскоўцы былой Савецкай Арміі не прымалі прысягі на вернасць беларускаму народу і ягонай дзяржаве. Складвалася парадаксальная і досыць небяспечная сітуацыя: заставалася ў сіле прысяга на вернасць СССР, а правапераемнікам СССР абвясціла сябе Расія... Прысяга асабовага складу Узброеных Сіл РБ на вернасць Беларусі стала надзённай патрэбай. Сябры БЗВ звярнуліся з адпаведнай заявай да Вярхоўнага Савета, урада і грамадскасці Беларусі, распачалі растлумачальную працу ў сродках масавай інфармацыі. Прымаў ўдзел у гэтай справе і я. Нагадаю свой артыкул у «Звяздзе» за 14 сакавіка.

Асабіста для мяне самым памятным днём года было 8 верасня — Дзень беларускай вайсковай славы, прыняцце Вайсковай прысягі, тэкст якой быў зацверджаны Вярхоўным Саветам 11 студзеня 1992 года. У гэтым сімвалічным акце бралі ўдзел афіцэры БЗВ і вайскоўцы запасу.

І вось напярэдадні новага. 1993 года, 31 снежня з 10.00 увесь асабовы склад Узброеных Сіл РБ на чале з міністрам абароны будзе адначасова прыведзены да прысягі на вернасць Беларусі. Такім чынам будзе зроблены яшчэ адзін крок да стварэння сапраўднага беларускага войска.

Лічу выдатнай падзеяй мінулага года з'яўленне ў друку нарыса-даследавання «Забытая слава». Калі браць да ўвагі, што з самага пачатку 1993 года ў войску ў службовы час будуць праводзіцца заняткі па вывучэнні гісторыі Беларусі, а таксама беларускай мовы, дык гэты нарыс, у якасці метадычнага матэрыялу, вельмі дарэчы.

Ну, і ў новым годзе войска апранецца ў новую форму з нацыянальнай сімволікай, загучаць у шыхтах каманды па-беларуску. Але галоўнае — войска будзе ўмацавана за кошт карэнных грамадзян Рэспублікі Беларусь.

**Віктар ЧАРОПКА,**

**рэдактар часопіса «Хрысціянская думка», г. Мінск:**

— Заўсёды, калі сустракаю Новы год, адчуваю гаркоту, шкадаванне ад таго, што, аказваецца, тое, пра што марыў, на што спадзяваўся, не спраўдзілася ў многім ці часткова. Шкада страчанага часу.

Іншая справа — Каляды — свята набыцця, бо мы ў гэты дзень віншуем Хрыста — збавіцеля чалавецтва, які ўсё ж прыдаў сэнс нашаму жыццю.

Ці ўмею я калядаваць, шчадраваць? Калісьці, у маленстве, здаецца, умеў. Цяпер, мабыць, забыўся. Шкада, што традыцыі згубіліся. Але нездарма кажуць, што паўтарэнне — маці вучэння. Таму вучыцца будзем ізноў.

На ваша другое пытанне адкажу так: я знаходжуся ў духоўнай апазіцыі з Рэспублікай Беларусь. Мой лёс ад лёсу рэспублікі не залежыць. Калі ён і залежыць ад кагосьці, дык ад Бога, які дае мне магчымасць, і ад мяне самога, які павінен гэту магчымасць выкарыстаць.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

# Душы трывожная аповесць



●

Я прыеду, я вярнуся,
Я прыйду да плыткай рэчкі,
Дзе самотны белы бусел
Думу думае аб вечным.

Як і год, і два, і дзесяць,
Мо яшчэ з сярэднявечча,
Ён вартуе рэчку Бесядзь,
Думу думае аб вечным.

Я вярнуся, пакланюся
І яму, і нашай рэчцы,
Я з ім ціха пажуруся
І падумаю аб вечным.

Пакланюся, пажуруся
І ў тумане знікну заўтра...
Белы бусел, белы бусел —
Мой задумлівы сааўтар.

## ТАМ

Відаць, і я старэю, брат,
Усё часцей гляджу назад.
Ты мне даруй за збіты штамп:
Усё часцей бываю ТАМ.

Там ходзяць вернікі у храм,
Так ходзяць грэшнікі на
споведзь,
Душы трывожную аповесць
Так давяраюць святарам.

Я ўсё часцей бываю ТАМ.

●

Пасля вуліц ды завулкаў,
Лабірынтаў гарадскіх,
Сніцца рэчанька, рачулка,
Кладкі, кладачкі, масткі.

Разам з ластаўкай ды каняй
Я на золаку ўстаю,
Як калісьці Янка з Маняй,
Свайго коніка паю.

І на беразе зялёным
Пазіраю з-пад рукі,
Ці не мые дзе Алёна
Пад вярбою ручнікі.

Так бы й плыў на аблачыне,
Каб не голас нечы: «Злазь!
Брат твой косіць канюшыну...»

Выбачай мне, братка Ясь.

# ВАРЭНІКІ З ВІШНЯМІ

**Валянціна КУКСА**



Валянціна Кукса жыве ў Брэсце. Працуе выхавацелькай у дзіцячым садзе. Друкавалася ў часопісе «Маладосць» і ў абласной газеце «Заря».

У прадмове да апавядання, якое сёння змяшчае штотыднёвік, яна прызнаецца: «Калі пісала апавяданне, не было намеру паказаць негатыўныя бако нашага ладу, жыцця. Я ўспаміналa рэаліі свайго дзяцінства, і цяпер, ужо ў сталым узросце, усё так і засталося мараю пра светлую будучыню, бы тыя варэнікі з вішнямі для маленькай Мілі. А чалавек? Што перашкаджае яму, чалавеку, па-чалавечы вырашаць жыццёвыя пытанні? Так і застаецца пытаннем».

## Апавяданне

1

ХАТА ДЗЕДА РЫГОРА ляпілася за раўчуком, на пагорку. Вялізны стары сад абнесены агароджаю з калючага дроту. Дрот у чатыры ніткі мацаваўся на старых хваёвых слупах. Слупы патрэскаліся ад дажджу і ветру, параслі шызаватым мохам. Але моцныя, бо са спелых смалістых хвояў.

Пасярод двара — калодзеж. Вада ў калодзежы заўсёды халодная і смачная. Стары Рыгор казаў, што выкапаў у добрым месцы, натрапіў на «жылу». Каля калодзежа процьма бочак і цэбраў, напоўненых вадою, каб не парассыхаліся. Тут жа стаіць доўгае карыта з цэльнага камля. З яго п'юць ваду і каровы, і авечкі, і гусі. Для гусей выгода. Паўсюдна вады колькі хочаш: і канава, і рэчка, і возера. Бывала, як прыйдуць на падворак, дык ён станавіўся белы.

— Аг-га! Каб на вас! — выходзіць заспаная Рыгорава дачка Гэля. Яна бярэ вядро і прастуе ў летнюю кухню. Набірае поўнае вядро варанай бульбы, абмешанай мякінай, і нясе ў гусятню, а тыя белым воблакам сцелюцца за ёю. Вядра мала. Гэля прыносіць яшчэ і яшчэ. Пакуль гусі ядуць, маладая гаспадыня пазірае на вялізную клуню. Там загарадкі для скаціны. Пад паветкаю, між пуняю і гусятняй, — заліты бетонам ток. Тут малоцяць жыта. Далей на лужку стаіць пазалеташні стажок.

— Дзе ты там валэндаешся! — гукае Рыгор. Ён выходзіць на падворак. Гэля ўздыхае і моўчкі знікае ў дзвярах. Стары апіраецца на вароты і азірае сваю гаспадарку. У вачах сум.

Не так даўно ў калгас адрэзалі тое поле, што па-за клуняю і агароджаю. Па-за клуняю, аж да Мядзведжых хутароў была яго зямля. З таго боку Рыгор не гарадзіў. Для сябе лічыў, што гэта яго поле. Праўда, пасярод белага дня не асмельваўся, а ноччу ўжо гаспадарыў. Раслі там калгасныя буракі — буракамі завальваў усё, што можна было заваліць. Бульба — бульбаю. Лён — хапала тады лёну. Сляпая яго Тэкля напрадзе і натчэ тады на дзіва відушчым. Хапала і той зямлі, што засталася, але ж не параўнаць з тым, што было. Хоць бы дзіця нарадзіла Гэля, а то і другі зяць збег. Вунь у Пятра, што пасяліўся за дротам на яго зямлі, аж трое. «Ат, скула... Жыў бы ён лепей у вёсцы. Прыляпіўся тут на грудку, бы жаба... Нікчэмна сыходзіць мой век», які раз падумаў Рыгор.

Лягчэй стала на душы, калі стары паглядзеў на жыта, што пасеяў каля дроту. Рунь зелянела густа. Прымаразак улапіў яе сівымі купкамі і свежа радаваў вока. Старая грушка, што расла пасярод жыта, сыпала на яго счырванелае лісце. І вось астатняе сарваў вецер і веерам кінуў на поле.

— Добрае жыта павінна быць. Дай божа, — прашаптаў, супакойваючыся, Рыгор. Ён яшчэ і яшчэ раз акінуў позіркам жыта, прабег вачыма па бязлістым садзе, зірнуў на раку, што цякла па-за гародамі. Бераг тут быў балоцісты. Аер ды сітнёг лёгка гнуўся пад ветрыкам. Скрозь зараснік вербалозу, на фоне асенняга блакітнага неба, віднеўся белы кубрык парахода, можа, апошняга ў гэтым сезоне. Чулася, як плюхалася хваля і неслася па ручаіне, што ўпадала ў раку. Скрыпела да калка прывязаная лодка. Ляскаў ланцуг.

Міжволі Рыгорава вуха ўлавіла: «Цок-цок-цок, та-та. Цок-цок-цок, та-та...» Даносілася з суседавай кузні. Стары пагледзеў туды. «Зубяць сярпы. З жонкаю. Хіба для жанчыны работа ў кузні! Але спраўляецца. — Падумаў Рыгор пра Алесю, Пятрову жонку. — Не тое, што Тамаш з Віцем». Стары ўсміхнуўся ў пракураныя вусы, калі ўспомніў сваякоў. Тамаш неяк сам спрабаваў назубіць серп, а пасля расказваў Рыгору:

— І як гэто Алеся налаўчылася: цок-цок-цок і — гатова. Я ж кажу Віцю: Бі! — Б'е. Бачу: мелко. Кажу, бі яшчэ. Ляснe — прабівае палатно. І вот, спорчана. У Алесі такія зубочкі роўныя...

Каля кузні зашыпела: Пятро кінуў каваную нарыхтоўку ў вялізную каструлю, напоўненую вадой. Гартуе дэталь. З дзіркі пад дахам пыхнула сівым дымам, некалькі чырвоных іскрынак вылецела праз дзверы: патушыў горан. Ляснулі абцугі. З кузні выйшла Алеся. Сцягнула з галавы хустку, выцерла на хаду твар. Засунула хустку ў кішэню куфайкі, спрытна падхапіла пасмачкі валасоў і зноў закруціла іх у гульку. Заспяшалася ў хату. Трэба завідна ўправіцца. На асветленай сонцам сцежцы корпаецца малое. Гэта Міля. У Рыгора цяплее на душы, калі ён бачыць гэтае малое разважлівае дзяўчо. Міля падбягае да маці, працягвае рукі, зазірае ў вочы і нешта шчабеча. Алеся ўсміхаецца, і яны знікаюць за дзвярыма.

— Бог з імі, няхай жывуць, — думае Рыгор і паволі падаецца ў хату.

2

Маці ўвішна пачала рабіць прывычную работу. Дапамагалі



**Алесь ДРАНЕЦ,**

**скульптар:**

**— Не толькі мінулы, але 1991 і 1990 гады прайшлі для мяне пад знакам Скарыны. Я браў удзел у конкурсе на помнік першадрукару для Менска. Мне пашчасціла перамагчы, і вось ужо болей года я працую над помнікам, маючы афіцыйны заказ. Можа, каму-небудзь гэта дзіўна, але перамога ў конкурсе не надала мне ўпэўненасці, што я здолею зрабіць помнік Скарыну. Дакладней, помнік, варты Скарыны. Гэта ўпэўненасць прыйшла да мяне толькі зараз. Творчая фантазія павінна адштурхоўвацца ад рэалій жыцця. Таму, беручыся за партрэт гістарычнай асобы, мастак павінен, наколькі патрабуе тэма і дазваляе час, вывучыць эпоху, да якой належыць ягоны герой. Увогуле манументальныя аб'екты не робяцца знянацку. Архітэктурна-пластычныя ансамблі фарміруюцца дзесяцігоддзямі.**

**Сёння я бліжэй да разумення Скарыны ў кантэксце еўрапейскага Рэнесансу і беларускага Адраджэння, чым тры гады ці нават год назад. Цяпер я ведаю, што зраблю помнік. Але толькі ў тым выпадку, калі ён патрэбен гораду і дзяржаве. Уражанне такое, што, адсвяткаваўшы 500-годдзе Першадрукара, пра Скарыну проста забылі да наступнага юбілею.**

**Спадзяюся, што ў новым годзе нарэшце высветліцца, якая ўстанова — гарвыканком, Міністэрства культуры або адпаведная камісія Вярхоўнага Савета — павінны паклапаціцца аб ушанаванні памяці беларускага генія. А я як мастак сваю справу фактычна ўжо зрабіў.**

**Яўген ПАПЛАЎСКІ,**

**дырэктар нацыянальнага творчага аб'яднання «Беларуская Капэла»:**

**— Год 92-гі стаўся для нас знамянальным: 29 мая быў падпісаны міністрам культуры загад аб стварэнні «Беларускай Капэлы». Ідэі нашага маладога супольніцтва, падтрыманыя не проста ў асвечаных колах мастацкай інтэлігенцыі, музычнай грамадскасці, а і ў афіцыйных структурах (адзначу асабліва зацікаўленае стаўленне Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, спадароў Н. Гілевіча, Я. Цумарава), — гэтыя ідэі пачалі ажыццяўляцца. Нагадаю, што ў лістападзе адбыўся II Міжнародны фестываль «Адраджэнне капэлы», канцэрты якога адлюстравалі тыповую для беларускіх земляў у XVIII ст. панараму: былі прадстаўлены опера, балет, кантатна-аратарыяльная, камерна-вакальная ды інструментальная музыка. Пачалося стварэнне архіва «Беларускай Капэлы», бібліятэку папоўнілі вернутыя з нябыту ноты твораў, неадлучаных ад гісторыі культуры нашага краю: опера Д. Паізіелы «Уяўная каханка», балетная музыка Э. Ванжуры, М. Радзівіла, па-майстэрску аранжыраваная капельмайстрам У. Байдавым для выканання на фестывалі, партытуры В. Казлоўскага, песняспевы уніяцкай царквы з Полаччыны, творы для гітары, фартэпіянныя п'есы М. К. Агінскага і інш. Распачалося і выданне першага зборніка — «Беларуская гітарная музыка», куды ўключаны ўрыўкі з «Полацкага сшытка», «Віленскага сшытка» ды «Ліцвінскія фантазіі» В. Жывалеўскага, дарэчы, укладальніка зборніка. Гэты наваддрук адлюструе фірменны выдавецкі стыль Капэлы (гравюры зроблены мастаком М. Бараздыкам). Наладзілі мы і кантакт з маскоўскай фірмай грамзапісу «Мелодия»: ужо ёсць дамоўленасць, каб на аснове фондавых запісаў Беларускага радыё выпусціць першы, таксама фірменны «капэлаўскі», дыск старадаўняй музыкі Беларусі. Увесну плануем правесці Дні польска-беларускай музыкі (4 канцэрты ў Мінску, затым — у Варшаве), з удзелам нашага «Класік-Авангарда» ды камернага калектыву з Польшчы. А на восень рыхтуем III Міжнародны фестываль «Адраджэнне...» Згодна з канцэпцыяй, пра якую неаднойчы распавядаў у «ЛіМе» мастацкі кіраўнік нашага аб'яднання В. Скорабагатаў, адбудзецца паказ музыкі, якая сёння пішацца і сёння ж выконваецца, а значыць і паказ асноўных напрамкаў новай музыкі, што існуюць у розных кампазітарскіх школах свету. Дыпламатычныя службы дапамагаюць нам у падрыхтоўцы гэтага фестывалю, на якім мы спадзяёмся сустрэцца з музыкантамі Польшчы, ФРГ, Фінляндыі, Літвы, Масквы, Ерусаліма. З нашага боку ўдзельнічае «Класік-Авангард», які выканае кантату В. Капыцько «Страсці паводле Іаана», камерны балет на маю музыку (пішу таксама музыку для новага сцэнічнага відовішча «Ружа і крыж»), шэраг сучасных п'ес для розных інструментальных складаў. Плануецца тады ж і правядзенне майстар-класаў для маладых кампазітараў, пад кіраўніцтвам З. Краўзэ з Варшавы, Э. Дзянісава з Масквы, вядучых беларускіх майстроў кампазіцыі. Гэта планы на лістапад, але мы спадзяёмся, што яшчэ адзін цікавы фестываль адбудзецца ў маі: Гродзенская гарадская капэла, створаная, дарэчы, таксама ў маі 92-га, мяркуе наладзіць фестываль імя Агінскіх з удзелам «Беларускай Капэлы» ды польскіх музыкантаў.**

**Ангеліна МАСЮТА,**

**інструктар лячэбнай хірургіі 1-й клінікі, дзіцячае аддзяленне:**

**— Новы год для мяне асабіста лепшае свята. Ён нясе новыя надзеі, новыя спадзяванні. Я люблю Новы год. Але святкаванне яго зводзіцца (калі не ўлічваць падарункаў родным і блізкім і ад іх таксама) да багатага застолля — і толькі.**

**На жаль, як святкаваць Каляды — я не ведаю. Не ўмею ні калядаваць, ні шчадраваць. Не навучылі нас гэтаму. Смутныя ўспаміны дзяцінства, як калядавалі ў бабкі ў вёсцы, вельмі таямнічыя і захапляючыя. Трэба нам вяртацца на кругі свая, спазнаваць, вывучаць народныя традыцыі, каб адзначаць народнае свята было цікава.**

**Мой уласны лёс неаддзельны ад лёсу Бацькаўшчыны. Спадзяюся, што рэспубліка наша адродзіцца, стане па-сапраўднаму незалежнай, моцнай дзяржавай, са сваёй мовай, адукацыяй, гісторыяй, культурай. Я прынцыпова не чытаю газет, якія ў нас выдаюцца на рускай мове, а тым больш друкуюць артыкулы супраць усяго беларускага. Я не адна ў нас у клініцы размаўляю на роднай мове (на жаль, мова мая яшчэ падобная на «трасянку»), мяне падтрымліваюць і доктар-стаматолаг, і лабарант. І ніхто ўжо не крывіцца, не адварочваецца, не смяецца. У адным я цвёрда перакана на: адраджэнне духоўнае прывядзе да адраджэння эканамічнага.**

# БЫЛО

**1944 год. Яшчэ не скончылася вайна з гітлераўцамі. Праўда, вялася яна ўжо там, на захадзе, дзе пяць гадоў таму брала свой пачатак. А на нашай вызваленай ад ворага зямлі пачалася аднаўленчая праца.**

**У тым далёкім сорак чацвёртым ступіў я па волі лёсу на журналісцкую сцежку. І доўжылася гэтая сцежка аж 40 гадоў. Быў рэдактарам раённай газеты ў Жабчыцах, Лунінцы, Іванаве, рэдактарам газеты палітаддзела МТС у Лагішыне, карэспандэнтам абласных газет «Палеская праўда» (г. Пінск) і «Заря» (г. Брэст). Працаваў і пры Сталіне, і пры Хрушчове, і пры Брэжневе.**

**Пра многае, што хвалявала, з-за чаго балела сэрца, пісаць забаранялася. Цэнзары бязлітасна выкрэслівалі ўсё, што выклікала ў іх падазрэнне. Даходзіла да абсурду. Напрыклад, на паласе, дзе змяшчаўся партрэт Сталіна, не магло быць крытычнай нататкі. Не дазвалялася нават упамінанне аб стыхійных бедствах, аб цэнах на рынку і г. д.**

**Вось некалькі згадак пра той час. Можа, яны паслужаць перасцярогай для тых, хто не супраць вярнуцца ў мінулае.**

**З этычных меркаванняў прозвішчы некаторых «герояў» не называюцца.**

## «Уперад ад камунізма»

На пачатку 1950 года, калі я працаваў у рэдакцыі пінскай абласной газеты «Палеская праўда», мяне нечакана выклікалі ў аддзел прапаганды ЦК КПБ. Размова была кароткай:

— Рэкамендуем вас рэдактарам газеты палітаддзела Лагішынскай МТС.

Ніякія пярэчанні з майго боку не прымаліся. Праз два тыдні чытач павінен атрымаць першы нумар газеты. Назва яе — «Уперад да камунізма».

Задача па тым часе вельмі складаная. Пачынаць трэба з нуля. У раённай друкарні абмежаваны запас шрыфтоў. Трэба папоўніць яго. А як? Неабходна было падумаць і пра загаловак газеты.

У Пінску тады жыў знакаміты разбяр па дрэву Шахновіч. Па маёй просьбе ён і нарэзаў на цвёрдай грушавай дошчачцы патрэбнае мне клішэ.

Да вызначанага тэрміну я падрыхтаваў неабходныя матэрыялы. У раённай друкарні зрабілі набор і вёрстку першага нумара. І вось позна вечарам, калі была закончана апошняя праўка газеты, у друкарні з'явіўся цэнзар (загадчык аддзела райкома партыі). Чытаў ён марудна, пыхаў папяроскай, глыбакадумна моршчыў лоб. У тэксце, відаць, нічога падазронага не заўважыў, але і з дазволам друкаваць не спяшаўся, усё круціў у руках двухпалоску, то падносіў яе бліжэй да святла, то набліжаў да вачэй. Нарэшце вынес прысуд:

— Трэба мяняць загаловак.

— Які загаловак? — не зразумеў я.

— Загаловак газеты... Што гэта за шрыфт?!

— Яго нарэзаў умелы майстар, — даводзіў я.

— Трэба яшчэ разабрацца з гэтым майстрам. Паглядзі ўважліва на літару «Д». Яе ж цяжка адрозніць ад літары «А»... Чалавек з аслабленым зрокам можа прачытаць і так: «Уперад ад камунізма»... Ты разумееш, чым гэта пахне?

Даказаць цэнзару, што літара «Д» зусім прыстойная, было дарэмнай тратай часу. Давялося прасіць наборшчыкаў, каб падабралі больш-менш падыходзячы для гэтай мэты шрыфт і з такім прымітыўным загалоўкам газета выйшла ў свет.

## Чаму на літару «В»?

На пасаду загадчыка сектара друку абкома партыі гэты чалавек, можна сказаць, трапіў выпадкова. Здарылася гэта тады, калі тры вобласці аб'ядналі ў адну — Брэсцкую. З трох абкомаў давялося рабіць адзін. Узнікла праблема занятасці наменклатурных кадраў. Падбіралі новую пасаду і гэтаму чалавеку (назавём яго Міхайлаў). Вычыталі ў анкеце, што перад вайной ён некалькі месяцаў працаваў наборшчыкам у друкарні. Ну чым не загадчык сектара друку?

Так ён і сеў у адведзенае яму крэсла. А трымацца начальнікам ён мог. Заўсёды строгі погляд, добра пастаўлены камандзірскі голас, ваенная выпраўка. Адпаведнай была і яго апратка: гімнасцёрка колеру хакі, афіцэрскі рэмень, сінія галіфэ, хромавыя боты.

З'яўляючыся ў рэдакцыі, ён садзіўся за стол у кабінеце рэдактара, клаў перад сабой падшыўку газеты і доўга гартаў яе, робячы нейкія паметкі ў сваім блакноце. Пасля гэтага выказваў заўвагі, даваў указанні.

Так было і гэтым разам, калі ён прыехаў у Пінск, у рэдакцыю аб'яднанай газеты. Рэдактарам там быў даволі вопытны журналіст і ўмелы кіраўнік Міхаіл Раманавіч Гец. Больш за паўдня «вывучаў» Міхайлаў падшыўку газеты. Нарэшце падвёў вынікі:

— Ну што ж, Міхаіл Раманавіч, курс вы трымаеце правільны. Але ёсць адзін сур'ёзны недахоп.

— Сур'ёзны? — насцярожыўся рэдактар.

— Так-так... Чамусьці большасць артыкулаў у вашай газеце пачынаецца на літару «В». Трэба, дарагі таварыш, арыентавацца на «Правду». Там артыкулы пачынаюцца і на «О», і на «К», і на «Д»...

Рэдактар не ўстрымаўся:

— Я думаю, што галоўнае — змест артыкула, незалежна ад таго, на якую літару ён пачынаецца.

— Я не намераны ўступаць з вамі ў дыскусію. Заўтра ж на рэдакцыйнай лятучцы, а яшчэ лепш на адкрытым партыйным сходзе сур'ёзна абмяркуйце мае заўвагі і выпрацуйце адпаведныя мерапрыемствы. Лічыце гэта партыйным указаннем!

Кіраваў Міхайлаў газетамі да выхаду на пенсію.

## Ах, які ў яго почырк!..

Без ведама райкома партыі рэдактар не меў права прымаць на работу новых супрацоўнікаў. Калі ўзнікла патрэба ў кадрах — кожная кандыдатура абмяркоўвалася ў бюро РК КПБ.

Запомнілася пасяджэнне бюро Лунінецкага райкома партыі, дзе рашалі, каго даць мне ў намеснікі. Я прапанаваў на гэтую пасаду маладога здольнага журналіста. Аднак яго кандыдатура была адмецена з парога — «вельмі малы партыйны стаж».

Сакратар райкома, якая займалася пытаннямі ідэалогіі, — мажная жанчына з двума падбародкамі — прапанавала кандыдатуру свайго знаёмца.

Чалавека гэтага я ведаў, нічога дрэннага пра яго сказаць не мог, але для газеты ён быў не прыдатны, не было ў яго той божай іскры, без якой не можа быць журналіста. Усё гэта я выказаў і членам бюро.

Сакратар райкома незадаволена нахмурыла бровы і рашыла аглушыць мяне важкім, на яе думку, аргументам:

— А ты бачыў яго почырк? Раней так прыгожа толькі на грошах распісваліся... Кожная літара, як вылітая...

Яна была ўпэўнена, што почырк — гэта галоўнае для журналіста.

## «Ён у нас значыцца...»

Начальнік раённага аддзела КДБ выбіраўся, як правіла, членам бюро райкома партыі. Пры вырашэнні кадравых пытанняў яго голас быў рашаючым.

Прыгадваецца такі выпадак. На пасяджэнні бюро Лагішынскага райкома абмяркоўвалася кандыдатура на пасаду памочніка начальніка палітаддзела МТС па камсамоле. Была толькі адна прапанова.

— Я супраць, — заявіў начальнік райаддзела КДБ. — Прапануемы вамі чалавек значыцца ў нас.

— А што там у яго? — пацікавіўся першы сакратар райкома Шарыпа.

— Гэтага я сказаць не магу... Шарыпа пакрыўдзіўся і рашыў не здавацца. Справа дайшла да абкома партыі.

Як было далей, мне расказваў потым сакратар Лагішынскага РК КПБ па кадрах Раманюк. Першы сакратар Пінскага абкома партыі Цецюшаў запрасіў да сябе намесніка начальніка абласнога ўпраўлення КДБ. Той і праясніў таямнічасць гэтага «значыцца»:

— Выказваў незадаволенасць картачнай сістэмай на хлеб.

— А ты задаволены картачнай сістэмай? — абурыўся Цецюшаў. — Не ведаеш, што гэта часовая бяда? Забірай свой талмуд і ідзі з вачэй!..

Цецюшаў у хуткім часе пакінуў Пінск. Можа, прычынай паслужыў і гэты інцыдэнт? Хто ведае. У Беларусі ж тады лютаваў нядобрай памяці Цанава.

## Падарунак Сталіну

Пазванілі з абкома партыі: набліжаецца 70-годдзе Сталіна. Трэба разгарнуць усенародную падрыхтоўку да гэтай знамянальнай даты, арганізаваць збор падарункаў вялікаму правадыру.

У Жабчыцкім райкоме партыі пасля гэтага званка быў неадкладна сабраны актыў. Сакратар райкома засяродзіў увагу прысутных на палітычнай важнасці маючай адбыцца па-

КАЗКІ ПЕРАБУДОВЫ

# СЯМЕЙНЫ ПАДРАД

Сабраліся неяк у Маскве лідэры камуністаў і пачалі падлічваць вынікі сваёй дзейнасці. Хутка будзе 70 год, а што зроблена? Асабліва слаба ў галіне навукі. Усяго два ці тры Нобелеўскія лаўрэаты. Рашылі выявіць патэнцыяльных Ламаносавых і тэрмінова прасоўваць у сусветную навуку. Разаслалі ўстаноўку па рэспубліках.

У нашай акадэміі яе таксама атрымалі. Партком сабраў сакратароў, паставіў задачу. Сакратары з намеснікамі і кадравікамі зашамацелі паперамі. Кожны хацеў паказаць плён свайго ідэйнага кіраўніцтва. Але вось дзіва: няма ў нас на Беларусі вучоных сярэдняга веку, абавязкова камуністаў, якіх ведалі б за граніцай. Знайшлі ўсяго аднаго, але ўзняўся ён неяк без партыйнай апекі і хто ведае, што там у яго ў галаве. Як у ваду, дарэчы, глядзелі. Сёння там яму штомесячна плацяць 20000 долараў і, пэўна, задаволены. Іншыя акадэмікі і члены-карэспандэнты паўсвету аб'ездзілі, а ніхто іх не бярэ.

Далажылі вынікі пошукаў наверх, адтуль у Маскву. Праз нейкі час прыходзіць новае заданне. Знайсці мужа і жонку, сярэдняга веку, з вучонымі ступенямі, абавязкова камуністаў і беларусаў і каб было ў іх двое дзяцей — вучняў з добрымі адзнакамі. Нехта там наверсе ў ідэалагічным аддзеле надумаў прадэманстраваць сямейны падрад у навуцы. Па-іхняму што сахор, што лазер— адно і тое, бяры і варочай. Ніяк не маглі ўцяміць, што выбітны вучоны — гэта прадукт штучнай вытворчасці і патрабуе больш далікатных адносін.

І зноў парткам акадэміі сабраў сакратароў, ізноў зашамацелі паперамі кадравікі.

Але зноў асечка—зусім мала ў беларускай акадэміі беларусаў. Мяркуйце самі: прэзідэнт і намеснікі беларусы, а далей— пайшло-паехала. Можна сказаць, поўны інтэрнацыянал. Дырэктары інстытутаў, загадчыкі лабараторый, вучоныя сакратары — пераважна рускія, яўрэі, украінцы, толькі не беларусы. Ім, бедалагам, засталіся пасады старэйшых, звычайных і малодшых супрацоўнікаў ды яшчэ інжынераў і лабарантаў. Адным словам, так званая цяглавая сіла навукі.

Зноў сабраліся ў парткаме, выслухалі ўсіх, далажылі па інстанцыі аж у Маскву. Там сказалі: «Это хорошо, что интернационализм. А раз вы слабые в науке, то пашите, сейте, побыстрее наращивайте производство мяса, масла, яиц и прочих продуктов, за которыми в Москву ездит вся Россия. Наукой мы вас обеспечим». Так і зрабілі. Нават склалі праграму і назвалі харчовай. Раілі выканаць датэрмінова. Быў у нас тады на самым версе адзін вучоны аграном. За вочы яго ўсе звалі Шафёр. Ён са скуры вылузваўся, каб хутчэй выканаць гэты наказ. У абласцях і раёнах адна за другой праходзілі навукова-практычныя канферэнцыі па мясе, малацэ, яйках, угнаеннях і фуражы. Па ўсёй рэспубліцы раней набудавалі атрутных хімічных прадпрыемстваў, цяпер дабавілі быдла- і свінагадоўчыя комплексы і птушкафабрыкі. Усюды развесілі лозунгі: «Давай, давай, давай и побольше!». Трэба сказаць, давалі-такі добра. Стаіш другі раз на станцыі і дзіву даешся: дзе набылі столькі вагонаў-рэфрыжэратараў, што адзін за другім ідуць на ўсход. Адно цяжка было сказаць, колькі таго мяса атрымана на комплексах, а колькі на сельскіх выганах і ў хлеўчуках, без біялагічных дабавак і хіміі. Бо нашы працавітыя людзі і тут не ведалі ўпынку. Але ўсё ўключалася ў рахунак дасягненняў умелага кіраўніцтва. Устанавіўся нават нейкі баланс інтарэсаў. Туды — прадукты, адтуль — узнагароды. Дайшло да таго, што сярэдні партыйны кіраўнік меў больш узнагарод за бывалага франтавіка. Насіць іх толькі не адважваліся—брыдка ад людзей. Але ў анкеце яны мелі вагу. Можна было красці колькі ўлезе і не баяцца суда. З ордэнамі маглі хутчэй перавесці на вышэйшую пасаду ці нават забраць у Маскву. Але служылі яны часцей за ўсё як індульгенцыі на адпушчэнне грахоў, якіх заўсёды ў ардэнаносцаў было хоць адбаўляй. Дзеля гэтага і стараліся. У рэспубліцы ад гэтых узнагарод заставаўся гной каля кожнага комплексу, а вакол хімічных камбінатаў — атрута. Нашы эколагі падлічылі, што амаль тры тысячы ферм і комплексаў стаяць каля рэчак і атручваюць іх. Ва ўсіх вялікіх гарадах рэспублікі чадзяць хімкамбінаты. Атручваюцца грунтовыя воды, бо без меры сыплюць хімічныя ўгнаенні, дарэчы, дрэнна ачышчаныя.

Сёння той Шафёр на пенсіі. Урад узначальваюць людзі з навуковымі ступенямі і званнямі, але аўнотворчасць, прабачце, працягваецца, як і некалі. Далучыўся яшчэ Чарнобыль.

Акадэмія навук, скарочаная амаль напалову, працягвае змяншацца і цяпер, але ніхто гэтага не бярэ да галавы.

Калі трэба было карміць жывёлу, дык урад выдаў спецыяльную адозву: касіце, маўляў, сена, бо жывёла схуднее ці зусім здохне.

А калі б усур'ёз узяцца за навуку? Ад яе не пахне, ад яе не ўчадзееш, а прыбытак у многа разоў большы, чым ад жывёлагадоўлі. Ды і вывозіць навуку можна ў многія краіны, а не толькі ў Маскву.

Нашы продкі 400 гадоў назад адкрылі ў Вільні універсітэт. Дарэчы, першы ва ўсходняй Еўропе. Першыя надрукавалі кнігу. Былі ў нас вядомыя на ўвесь свет вучоныя, творы якіх тлумачылі на еўрапейскія мовы. На Літве (цяперашняй Беларусі) упершыню надрукавалі ў 1618 годзе буквар (адзін знаходзіцца ў Капенгагене, другі—у Лондане), а праз год і Граматыку Сматрыцкага, якую М. Ламаносаў назваў «вратами учености». 200 год, як нас далучылі да Расіі. Ніхто гэтага не хацеў. Што ні пакаленне — паўстанні. Пасля чарговага паўстання 1831 года цар зачыніў Віленскі універсітэт і забараніў беларускую мову. Лічыў—было за што. Калі паўстанцы падышлі да Вільні, да іх далучыліся амаль усе студэнты. З 47 прафесараў 36 былі свае, літоўскія.

Семдзесят год таму стала яшчэ горш. Хто не хацеў рабіць тое, што загадвалі, павінен быў валіць лес, капаць каналы, мыць золата на Калыме ці парыць зямлю ў Курапатах. Канешне, ніхто нам мяса не дасць, але трэба разам з прыбыткам лічыць і заганы. Ад навукі ж шкоды не будзе з гарантыяй. Не будзем жа мы, нейтральная ў будучым рэспубліка, працаваць над атамнай, вадароднай бомбай ці бактэрыялагічнай зброяй.

Нам трэба, як цяпер кажуць, перадавая тэхналогія. Якая? Па хімічных угнаеннях, лесу, торфу, ільну, машынах, прыборах. Дайце толькі магчымасць—людзі разбяруцца. Вунь японцы як разбагацелі, а што ў іх сваё? Вугаль, жалезная руда, галава і рукі. А хіба ў нас гэтага няма? Праўда, вугаль і руда яшчэ не чапаныя і ляжаць троіх глыбакавата. Але ж мы—людзі працавітыя. Нашы старыя працуюць да апошняга. Гэта цяпер пазней пачынаюць і раней канчаюць. Бо адвыклі. Калі даць гэтым людзям зямлю, яны накормяць сябе і другіх. Гэтак і з навукай. Калі на дыстанцыі школа—інстытут — прадпрыемства не па блату, а па здатнасці адбіраць лепшых і даваць ім магчымасць працаваць без велізарных падаткаў — на вынікі не доўга трэба будзе чакаць.

Дасць Бог, выкараскаемся з той багны, у якую залезлі па дарозе ў светлую будучыню. А Акадэмію навук скарачаць утрая не мае сэнсу. Трэба пазбавіцца ад баластных кадраў—згодзен. Але ж робіцца пакуль што наадварот.

**Вячаслаў ПІЛІПЧЫК.**

АНОНС

## Добры вечар, Святы вечар!

**Гэтымі словамі са старадаўняй беларускай песні 8 студзеня а 18 гадзіне ў Доме літаратара ў Менску пачнецца дабрачынная хрысціянская калядная вечарына, якую ладзіць Саюз пісьменнікаў разам са згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

**Да ўдзельнікаў вечарыны з віншаваннем і боскімі словамі звернуцца святары, прагучаць калядныя канты, а каля навагодняй ёлкі будуць валтузіцца з казою шчэдрыкі. Потым на сцэне вялікай глядзельнай залы мастацкі калектыў «Рунь» пакажа навагодняе прадстаўленне. Старажытныя песні ды скокі, слава Богу, яшчэ не адышлі ў нябыт. І ўсе гледачы стануць удзельнікамі свята.**

**Калі ласка, запрашаем не калядную вечарыну!**

## Запрашае Дом літаратара

**5 студзеня а 15 гадзіне пачнецца дзіцячая хрысціянска-калядная вечарына «Нараджэнне Гасподне — карагод навагодні».**

**У нечым падобная вечарына чакае 8 студзеня і дарослых. Яна, як і ўсе асноўныя мерапрыемствы, пачнецца а 18 гадзіне.**

**На відэавечары 12 студзеня можна будзе паглядзець дакументальны фільм «Першыя заняткі» (вытворчасць РВТА «Белвідэацэнтр», аўтар сцэнарыя А. Ліс, рэжысёр Ю. Лысятаў) і мастацкі фільм «Асноўны інстынкт» (вытворчасць ЗША, 1992 г.).**

**«Недзе гараць агні...» — так называецца вечарына (пройдзе яна 14 студзеня), прысвечаная 60-годдзю пісьменніцы А. Кобец - Філімонавай.**

**15 студзеня ўрачыста адзначаецца 100-годдзе з дня наражэння К. Буйло.**

**20 студзеня секцыя прозы праводзіць «Вечар кароткага апавядання». 21 студзеня — адзін вечар з Данчыкам «Песню родную люблю я». 22 студзеня — творчы вечар Н. Гальпяровіча.**

**Пісьменнік М. Чарняўскі ў 15 гадзін 27 студзеня сустракаецца ў ДЛ са школьнікамі.**

**На схіле месяца яшчэ два вечары: «Выбранецкая вечарына з танцамі» адбудзецца 28 студзеня, а радаводная літаратурна-музычная гасцёўня Згуртавання беларускай шляхты правядзе 29 студзеня вечарыну «Вінцэнт Дунін - Марцінкевіч, гербу «Лебедзь».**

**Секцыя перакладу збіраецца 21 студзеня, прозы — 22-га, ваенна-шэфская камісія — 25-га, а сумеснае пасяджэнне секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва і педагагічнай камісіі адбудзецца 28 студзеня. Усе гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца а 15 гадзіне.**



Без слоў.





Мал. А. ГУРСКАГА.


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі:Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры; Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 30.12.92 у 18.10.**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА.**

**Індэкс 63856** **П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**Тыраж 15.000.** **М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**